

# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ —
БЕЦЕ МЯЧАМІ!
НЕ ДАВАЙЦЕ
ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

Максім Багдановіч
(1891-1991)

№ 379 Сакавік-красавік 1991
Год выд. XL

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Prise $ 2.50


Зянон Пазьняк

## ПАЛІТЫЧНЫ ДАКЛАД

**на 2-м зьезьдзе**

## Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» 23 сакавіка 1991 г.



*Зянон Пазьняк*

Паважаныя спадары і спадарыні!
Шаноўныя дэлегаты!
Высокі Зьезд!

Мінула амаль два гады пасьля Ўстаноўчага зьезду ў Вільні і два з паловай гады пасьля ўтварэньня руху Беларускага Народнага Фронту. За гэты час шмат перамянілася ў нашай сьвядомасьці, у сьвядомасьці нашага народу і ўсяго грамадзтва. Утварыўся апазыцыйны рэжыму рух. Набіраюць моц ідэі Адраджэньня. Аднак асноўныя, вызначальныя аспэкты жыцьця Рэспублікі засталіся на ранейшым узроўні і нават пагоршыліся. Мы не дасягнулі незалежнасьці і свабоды, у нас не ажыцьцёўленыя галоўныя дэмакратычныя рэформы ў эканоміцы, культуры, палітыцы і праве. У нас па-ранейшаму манаполія КПСС-КПБ і гегемонія камуністычнай бюракратыі. Давайце паглядзім на нашу палітыку, становішча і пэрспэктывы.

**1989-1990 гады** характарызаваліся інтэнсыўным разьвіцьцём дэмакратычных працэсаў у рэспубліках СССР. Пашыраецца нацыянальна-вызваленчы рух. Па ўсіх швах трашчыць партыйная імпэрыя, хістаецца манаполія КПСС. Восеньню 1989 году М. Гарбачоў у праграмным артыкуле, распаўсюджаным у друку, заяўляе, што перабудова была задумана і пачалася як мадэрнізацыя, "удасканаленьне" існуючай сыстэмы, але зь цягам часу набыла глыбінны дэмакратычны сэнс «радыкальнай» перабудовы ўсяго грамадзтва. Генэральны сакратар КПСС паранейшаму выглядаў рэфарматарам і апэляваў да міжнароднай супольнасьці. У гэтым часе адзін за другім абрынуліся камуністычныя рэжымы ў Цэнтральнай Эўропе, рассыпалася Бэрлінская сьцяна, а ў краінах Балтыі народ даверыў уладу нацыянальна-дэмакратычным сілам. Усе чакалі выбараў у Саветы на Ўкраіне, Беларусі і ў Расеі. Менавіта ад вынікаў выбараў у гэтых рэспубліках залежаў лёс радыкальнай перабудовы і пэрспэктыва дэмакратыі ў СССР.

Аднак дэмакратычны рух у славянскіх рэспубліках, нягледзячы на ўспышкі эўфарычнага ўздыму, яшчэ толькі пачынаўся, не пранік глыбока ў народныя пласты, ня мог абаперціся на грамадзкія і тым больш дзяржаўныя інстытуты, стрымліваўся агульнай палітычнай несьвядомасьцю і культурнай адсталасьцю разьяднанага грамадзтва.

У руках КПСС былі антыдэмакратычныя законы аб выбарах, уся структура дзяржаўнай улады і ўсе сродкі масавай інфармацыі. Гэта дало магчымасьць бюракратыі поўнасьцю кантраляваць выбары і выбарчую кампанію 1990 году. Тое, што ў такіх варунках, ва ўмовах таталітарнай сыстэмы партнамэнклятура ў асноўным захавала за сабой Саветы — заканамерны вынік становішча грамадзтва. Дэмакратыя не змагла рэалізаваць свае магчымасьці на ўзроўні ўлады, і рэформы затармазіліся.

Лета 1990 году і пачатак дзейнасьці новых Саветаў прайшлі ў высьвятленьні пазыцыяў, прыняцьці дэклярацыяў і палітычных заяў. Але ўжо восеньню Гарбачоў адмаўляецца ад рэформаў. Пачынаецца паварот да ваенна-адміністрацыйнай рэакцыі, які прадаўжаецца і цяпер, хоць са студзеня 1991 году ён моцна забуксаваў пасьля няўдалых путчаў і правалу крывавых акцый у Прыбалтыцы.

Беларускі Народны Фронт, яго структуры і арганізацыі актыўна ўдзельнічалі ў палітычных працэсах гэтага часу. Найбольшай актыўнасьцю характарызавалася праца БНФ у другой палове 1989 — першай палове 1990 году.

У 1989 годзе, нягледзячы на адкры-

*(Працяг на 2-й б.)*

**«НЕ САКРЭТ, ШТО СЁНЬНЯ ГАЛОЎНАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ СІЛАЙ, ЯКАЯ СУПРАЦЬСТАІЦЬ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ, ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ». —** Уладзімер Атрошчанка, другі скаратар Менскага абкому КПБ, у гутарцы з рэдактарам газэты «Советская Белоруссия» З. К. Прыгодзічам, «СБ», 25 студзеня 1991 г.

## АБВЕШЧАНЬНЕ МЭРАМ МЕСТА НЬЮ-ЁРКУ ДНЯ БЕЛАРУСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ



Office of the Mayor
CITY OF NEW YORK
Proclamation

WHEREAS: THE BYELORUSSIAN AMERICAN COMMUNITY IS OBSERVING THE 73RD ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC ON MARCH 25, 1918; AND

WHEREAS: BETWEEN 1890 AND 1920 MORE THAN 500,000 BYELORUSSIANS IMMIGRATED TO THE UNITED STATES, LEAVING THEIR BEAUTIFUL HOMELAND TO SEEK NEW LIVES HERE; THEIR FIRST ORGANIZATION WAS FORMED IN 1920 ON PARK ROW ACROSS FROM CITY HALL PARK; AFTER WORLD WAR II ABOUT 50,000 ADDITIONAL IMMIGRANTS ARRIVED HERE, FLEEING OPPRESSION; TODAY MANY COMMUNITY ORGANIZATIONS ASSIST THEM AND PROVIDE MEETING PLACES AND CULTURAL ACTIVITIES; AND

WHEREAS: THE BYELORUSSIAN AMERICAN COMMUNITY CONTRIBUTES TO THE VITALITY AND DIVERSITY OF OUR CITY AND SHARES ITS RICH HERITAGE WITH ALL NEW YORKERS; IT SUSTAINS THE SPIRIT OF A FREE BYELORUSSIA AND PRESERVES THE TREASURES OF THE LANGUAGE AND TRADITION; AND

WHEREAS: TODAY WE ESPECIALLY REMEMBER THAT BYELORUSSIA WAS DEVASTATED BY THE CHERNOBYL NUCLEAR DISASTER; SEVENTY PERCENT OF THE FALLOUT CONTAMINATED ONE-THIRD OF THE COUNTRY, AFFECTING 2.2 MILLION PEOPLE, INCLUDING MANY RELATIVES OF NEW YORKERS; WHILE MANY SCIENTISTS, PHYSICIANS AND OTHER NEW YORKERS RUSHED TO ASSESS THE DAMAGE AND SEEK SOLUTIONS, THE LONG RANGE EFFECTS WILL NOT BE KNOWN FOR YEARS,

NOW THEREFORE, I, DAVID N. DINKINS, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, IN RECOGNITION OF THE MANY CONTRIBUTIONS MADE BY NEW YORKERS OF BYELORUSSIAN HERITAGE TO THE DIVERSITY AND VITALITY OF OUR CITY, DO HEREBY PROCLAIM MONDAY, MARCH 25, 1991 IN THE CITY OF NEW YORK AS

"BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY"



IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.

DAVID N. DINKINS
MAYOR

*На просьбу галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня мэр Нью-Ёрку Дэйвід Н. Дынкінс выдаў праклямацыю Дня Беларускае Незалежнасьці.*

У СУВЯЗІ З ТЫМ, ШТО:

Беларуска-амэрыканская грамада адзначае 73-я ўгодкі абвешчаньня 25 сакавіка 1918 году Беларускай Народнай Рэспубліке; і што:

Паміж 1890 і 1920 гадамі больш за 500 тысячаў Беларусаў іміграваліа ў Злучаныя Штаты, пакінуўшы сваю прыгожую радзіму ў пошуках новага жыцьця тут; іхная першая арганізацыя была заснаваная ў парку, што недалёка ад Гарадзкой Управы; па Другой сусьветнай вайне прыбыло сюды, уцякаючы ад рэпрэсіяў, каля 50 тысячаў імігрантаў; сёньня шмат якія грамадзкія арганізацыі дапамагаюць ім і даюць месца для культурнай дзейнасьці; і што:

Беларуска-амэрыканская грамада прыносіць свой уклад у энэргію і разнастайнасьць нашага места ды дзеліцца сваёй багатай спадчынай з усімі ньюёркаўцамі; яна падтрымвае дух свабоднай Беларусі і перахоўвае багацьце свае мовы й традыцыяў; і што:

Сёньня мы асабліва памятаем, што Беларусь пацярпела зьнішчэньне ў выніку чарнобыльскай катастрофы: 70 працэнтаў радыяцыйных ападкаў заразілі траціну тэрыторыі рэспублікі з жыхарствам 2,2 міліёна чалавек, сярод якіх ёсьць шмат сваякоў ньюёркаўцаў; тымчасам як многа навукоўцаў, лекароў ды іншых жыхароў гораду пільна ўзяліся вызначыць спрычыненую шкоду і шукаць разьвязак, вынікі катастрофы на далёкі час гадамі ня будуць ведамыя,

У СУВЯЗІ З УСІМ ГЭТЫМ, я Дэйвід Н. Дынкінс, мэр места Нью-Ёрку, у знак прызнаньня шматлікіх выпадкаў, калі ньюёркаўцы беларускага паходжаньня рабілі ўклад у разнастайнасьць і жыцьцяздольнасьць нашага гораду, гэтым абвяшчаю дзень 25 сакавіка 1991 году ў горадзе Нью-Ёрку

**«ДНЁМ БЕЛАРУСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ».**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, прадпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПАЛІТЫЧНЫ ДАКЛАД

*(Працяг зь 1-й б.)*

тае і скрытае супрацоўленьне партыйна-бюракратычных структураў, пад націскам БНФ, Акадэміі Навук і дэмакратычнай грамадзкасьці Беларусі разбурылася сьцяна хлусьні, сакрэтнасьці і маўчаньня вакол чарнобыльскага генацыду. Рэспубліка даведалася праўду, пачала шукаць выхаду да паратунку. БНФ стварыў камітэт «Дзеці Чарнобыля», які дапамагае захаваць здароўе дзецям з радыяцыйных зонаў. Чарнобыльскімі пытаньнямі займаецца таксама ў Народным Фроньце Ліга жанчын Беларусі і Камісія Сойму па замежных сувязях.

БНФ арганізоўваў экалягічныя мітынгі, паніхіды, гадзіны смутку і маўчаньня па ахвярах Чарнобыля, сябры БНФ прымалі ўдзел у розных абмеркаваньнях і сходах, выступалі на прэсканфэрэнцыях, інфармавалі замежную грамадзкасьць, рабілі заявы, друкавалі зьвесткі пра Чарнобыль у розных выданьнях, выяжджалі ў зоны і г.д. Усе памятаюць рэспубліканскую акцыю «Чарнобыльскі шлях» увосень 1989 году, а потым Чарнобыльскую асамблею народаў зь яе канфэрэнцыямі і народным трыбуналам. Усе памятаюць, як за гэтыя высокародныя справы кіраўнікі БНФ цярпелі ад беззаконьня, ад неправамоцных судовых прасьледаваньняў, усе памятаюць, як актывістаў Фронту душылі незаконнымі штрафамі, як паклёпнічалі на іх.

**Злачынства Чарнобыля,** радыяцыйны генацыд супраць беларускага народу людзі ніколі не забудуць. Тыя, хто, пачынаючы ад 1917 году, зьнішчылі дзесяткі мільёнаў ні ў чым непавінных людзей, тыя, хто ўпіхнуў наш народ у радыяцыйную багну, тыя, хто вінаватыя — будуць пакараныя. І гэта справядліва. Асуджэньне антычалавечага зла — умова для выздараўленьня грамадзтва.

Народны Фронт прыняў актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі 1990 году. Аднак ва ўмовах бюракратычна-кансэрватыўнай Беларусі ў асяродзьдзі нескансалідаванага грамадзтва, нявысокай нацыянальна-культурнай і палітычнай сьвядомасьці поўнасьцю рэалізаваць свае магчымасьці не ўдалося. Тым ня менш шмат дзе дэмакратычныя дэпутаты ад БНФ прайшлі ў Саветы і ўтварылі там свае фракцыі. Фракцыя БНФ у Вярхоўным Савеце, напрыклад, стала асновай канструктыўнай апазыцыі, якая за кароткі час падрыхтавала каля двух дзесяткаў праектаў законаў па асноўных галінах жыцьця рэспублікі. У канечным выпадку ніводзін закон, падрыхтаваны Апазыцыяй БНФ, ня быў прыняты агрэсыўна-намэнклятурнай большасьцю Вярхоўнага Савету, нягледзячы на тое, што нават гэтая кансэрватыўная большасьць вымушаная была прызнаць высокі навуковы, лягічны і праўны ўзровень прапанаваных дакумэнтаў. Калі-б распрацаваныя законы былі прынятыя і сталі выконвацца, на Беларусі зрушыліся-б зь месца рэформы і дэмакратычныя пераўтварэньні, грамадзтва набыло-б магчымасьць выхаду з сацыяльнай бязвыходнасьці, шанец для рэалізацыі дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі.

**Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце** нешматлікая — 10 працэнтаў ад агульнага складу дэпутатаў. Аднак яе заканатворчая, палітычная і тактычная дзейнасьць у Вярхоўным органе ўлады засьветчыла ня толькі інтэлектуальную і маральную перавагу Апазыцыі над кансэрватарамі, але, перш за ўсё, прадэманстравала стваральныя канструктыўныя магчымасьці людзей, аб'яднаных дэмакратычнымі ідэямі і клопатамі пра Бацькаўшчыну, іх гатоўнасьць да дзяржаўнай дзейнасьці. Калі-б у Вярхоўным Савеце Рэспублікі цяперашняя большасьць была ня тое што дэмакратычнай, а проста складалася-б зь людзей здольных успрымаць разумнае, кіравацца здаровым сэнсам, становішча на Беларусі складалася-б па-іншаму.

**«86 працэнтаў камуністаў сярод дэпутатаў (Вярхоўнага Савету БССР), а нашага ўплыву амаль не адчуваецца. Апазыцыя, трэба аддаць ёй наленнае, меншай колькасьцю праяўляе значна больш ініцыятывы».**
— *Анатоль Малафееў, першы сакратар ЦК КПБ, «Звязда», 22 сьнежня 1990 г.*

На жаль, цяперашні Вярхоўны Савет, як і Савет Міністраў, і іншыя органы ўлады Рэспублікі, знаходзяцца поўнасьцю ў руках камуністычнай намэнклятуры, якая вызначаецца на Беларусі крамлёўскай артадаксальнасьцю, рэліктавым кансэрватызмам і варожасьцю да беларускай культуры. Пэрспэктывы для цяперашняга Вярхоўнага Савету БССР ня відаць. Ва ўмовах камуністычнага рэжыму ён не самастойны. У варунках разгортваньня дэмакратыі ён ня здольны да рэфарматарскай дзейнасьці і яго прыйдзецца распускаць. Народны Фронт павінен быць падрыхтаваны да дэмакратычнага разьвіцьця падзей, памятаючы статутныя палажэньні дакумэнтаў Беларускай Народнай Рэспублікі аб скліканьні Ўстаноўчага Сойму і правядзеньні ўсеагульных дэмакратычных выбараў у вярхоўны орган улады Беларусі.

За пэрыяд пасьля Устаноўчага зьезду Фронт наладзіў і правёў мноства грамадзкіх акцый, мітынгаў, дэманстрацый, юбілейных ушанаваньняў, рэквіемаў, пікетаў, пратэстаў і г.д. Многія падзеі мелі і маюць да сёньняшняга дня грамадзка-сымбалічны сэнс, адыгрываюць кансалідуючае значэньне. Акрамя чарнобыльскіх мерапрыемстваў можна адзначыць у гэтым кантэксьце грандыёзнае правядзеньне Дзядоў у 1989 годзе — асьвячэньне крыжа і магілаў у Курапатах, стотысячны мітынг у Менску 25 лютага 1990 году і масавую антыкамуністычную дэманстрацыю ў сталіцы Рэспублікі, якая адбылася 7-га лістапада 1990 году ў самым пачатку наступу армейска-гарбачоўскай рэакцыі.

Гэтая акцыя прадэманстравала антытаталітарную сьпеласьць Фронту, які яшчэ тады канчаткова пазбавіўся ад ілюзій гарбачоўскай камуністычнай перабудовы. Камуністычны рэжым не рэфармуецца, як не рэфармуецца КПСС. Ён альбо існуе, альбо ня існуе. Падзея 7-га лістапада мае ня толькі палітычнае, але, можна сьмела меркаваць, гістарычнае значэньне.

**Камунізм на Беларусі атрымаў магутны, сакрушальны маральна-палітычны ўдар,** сэнс якога ўжо не схаваць ніякай хлусьнёй. Упяршыню за 73 гады камуністычнай дыктатуры ў горадзе, дзе нарадзілася гэтая партыя плянэтарнага генацыду, у чырвоны дзень яе ўшэсьця на трон і гадавіну партыйнага сьвята, правячая намэнклятура не змагла арганізаваць ні прымусова, ні за аплату так званай «октябрьской демонстрации трудящихся». Затое праз увесь горад прайшла іншая дэманстрацыя пад лёзунгамі «Прэч камунізм!» Дзесяткі тысячаў людзей сабраліся на плошчу Леніна, каб на антыкамуністычным мітынгу сказаць «не» камуністычнаму рэжыму, «не» Леніну — крываваму архітэктару масавага зьнішчэньня людзей, забойстваў і хлусьні, «не» бронзаваму ідалапаклонству.

У часе мітынгу быў зьдзейсьнены вельмі важны для грамадзкай сьвядомасьці і нашага будучага грамадзкага здароўя сымбалічны акт — вяртаньне пад ногі скульптуры Леніна атрыбутаў-сымбаляў дзяржаўнага рэжыму, які ён стварыў — пудзіла энкавэдыста з наганам, вязьня ГУЛАГу і шыбеніцу «сацыялістычнага выбару», які верныя ленінцы падрыхтавалі народу. Сымбалічнае вяртаньне атрыбутаў рэжыму, адмаўленьне ад камунізму, сьветчаньне непрыналежнасьці да яго злачынстваў адбылося публічна і нібы вялікі цяжар, камень зваліўся з чалавечых душ. Той, хто здольны зразумець сэнс гэтай простай містэрыі, той зразумее.

Каб перашкодзіць акцыі вяртаньня сымбаляў рэжыму, улады мабілізавалі да помніка паўтары тысячы міліцыянераў і адзьдзелы партыйнай міліцыі ОМОН, якія паспрабавалі ўчыніць правакацыю, выклікалі масавае штурханьне і цісканіну. Аднак з правакацыі нічога ня выйшла.

Потым уся Рэспубліка была сьветкам, як літаральна захліпнуліся ад злосьці ўсе камуністычныя сродкі масавай інфармацыі. Арганізавалі шырокамаштабную, нябывалую, хамскую кампанію паклёпу і хлусьні на БНФ, да сьмерці палохаючы дэзарыентаванага абывацеля. А ў выніку? А ў выніку атрымаўся «пшык». Яшчэ і адказваць прыйдзецца за паклёпы. Хлусьня не даўгавечная.

Аналізуючы дзейнасьць БНФ, узьнікае, аднак, пытаньне. **Чаму Беларускі Народны Фронт за больш чым два гады існаваньня ня стаў усеагульным масавым народным рухам,** не дасягнуў такіх посьпехаў, як, скажам, народныя франты ў Прыбалтыцы? Чаму ў кансэрватыўнай рэжымнай камуністычнай рэспубліцы ў гадавіну кастрычніцкага перавароту адбываецца не вернападданая, а антыкамуністычная дэманстрацыя людзей? Чаму ў Беларускім Народным Фроньце, рух якога мае апазыцыйную, антыкамуністычную накіраванасьць, прынцыпова дапускаецца ўдзел членаў КПСС і г.д. Пытаньні парадаксальныя для тых, хто не знаёмы са становішчам у Рэспубліцы, зь ідэя-лёгіяй і палітыкай БНФ.

У Беларускай Рэспубліцы на сёньняшні дзень ніякі грамадзкі рух яшчэ ня можа стаць масавым. Мы назіраем толькі масавую паслухмянасьць Маскве і начальству. Гэта тлумачыцца амаль поўным зьнішчэньнем грамадзянскай супольнасьці ў Рэспубліцы і нізкім узроўнем нацыянальнай сьвядомасьці насельніцтва. Такі стан узьнік з-за антынароднай палітыкі камуністычных уладаў на Беларусі, накіраванай на працягу доўгіх дзясяткаў гадоў на вынішчэньне беларускай культуры, мовы, гісторыі, рэлігіі, традыцый, лепшых прадстаўнікоў нацыі, на вынарадаўленьне і русыфікацыю людзей. Мэтадычнае, мэтанакіраванае разбурэньне беларускай нацыянальнай культуры, мовы і гістарычнай памяці прывяло да страты ў грамадзтве агульнанародных інтарэсаў, да распаду духоўных ідэалаў, да абніжэньня нацыянальнай сьвядомасьці, да зьнікненьня адзінства і народнай салідарнасьці. У выніку нацыя губляе духоўныя сувязі, народ ператвараецца ў раскансалідаванае насельніцтва, аб'яднанае толькі сацыяльнай экзыстэнцыяй і нявольніцтвам. Такое насельніцтва няздольнае на калектыўныя дзеяньні, на выжываньне і разьвіцьцё ў пэрыяды сацыяльных навальніц, экалягічных і грамадзкіх катастрофаў. Што нам яскрава засьветчылі перабудова, Чарнобыль, нядаўны гарбачоўскі рэфэрэндум і іншыя падзеі.

У грамадзтве нацыянальнай культурнай аморфнасьці і сацыяльных страсьцяў няма ідэй, якія-б маглі ўсіх аб'яднаць. Вось чому Беларускі Народны Фронт называецца «Адраджэньне». Пакуль ня будзе адроджана здаровая жыцьцёвая аснова, што аб'ядноўвае людзей у культурны народ, кансалідацыя грамадзтва немагчымая. Без культурна-нацыянальнай кансалідацыі народу недасягальная свабода. А без свабоды нядзейсныя ніякія эканамічныя рэформы, не разьвіваецца творчасьць. Змагацца-ж за свабоду і ствараць можа толькі сьвядомы народ.

Задачамі адраджэньня абумоўлены і агульнадэмакратычны характар палітыкі БНФ, з'арыентаванай на інтэграцыю ўсяго рэспубліканскага грамадзтва, на адраджэньне нацыянальнай і адначасна грамадзянскай супольнасцяў. Бо адно дапаўняецца другім.

Іншая справа, скажам, у краінах Балтыі, якія мелі 20 гадоў незалежнасьці. Як і на Беларусі ў савецкі час, там была амаль зьнішчаная грамадзянская супольнасьць. Але ў значнай ступені захавалася агульнасьць нацыянальная, засталіся людзі, якія некалі дыхалі свабодай і памятаюць традыцыі. Гэтых фактараў было дастаткова, каб народны антытаталітарны рух у Прыбалтыцы адразу стаў масавым, каб хутка пачалі адраджацца дэмакратычныя структуры, каб народ пажадаў незалежнасьці.

На Беларусі іншае становішча і ўмовы. Адпаведна ў нас свой шлях да свабоды, больш цяжкі і павольны, які патрабуе цярпеньня і працы, рашучасьці і абачлівасьці адначасова. Гэтым тлумачацца і парадоксы і **адносіны да камуністаў.** Мы ўсьведамляем, што ня было ніколі на Зямлі больш страшнай і антычалавечнай зьявы, чым камунізм. Гэта праява цемры і ўсяленскага мроку. За злачынствы супраць чалавецтва вінаватых чакае іхны «Нюрнбэрг». І гэта будзе. Аднак ва ўмовах сацыяльнай рэчаіснасьці нашага бюракратычнага грамадзтва ў КПСС апынуліся розныя людзі — і цемрашалы і сумленныя працаўнікі. Партыйная намэнклятура спэцыяльна пашырала колькасны склад КПСС, каб мець дадатковыя сродкі ад паслухмяных плацельшчыкаў. Таму Беларускі Народны Фронт не атаясамлівае характар ідэялёгіі з носьбітамі гэтай ідэялёгіі, адзьдзяляе асабістую адказнасьць члена КПСС ад калектыўнай, юрыдычную ад маральнай.

Калі член партыі падтрымлівае прынцыпы, мэты і задачы БНФ «Адраджэньне», навошта пазбаўляць яго магчымасьці ўдзельнічаць у руху? Гэта неразумна. Бо калі камуніст прыхо-

дзіць у Фронт, значыць ён ужо нязгодны з таталітарызмам. Наступным крокам можа стаць выхад з партыі. Трэба даць магчымасьць звычайным людзям зрабіць выбар і пакінуць КПСС, а не ствараць сабе ворагаў там, дзе могуць быць сябры.

У змаганьні з камуністычным рэжымам БНФ на першы плян ставіць адзінства нацыі, імкнецца стварыць такія ўмовы, каб камунізм зьнік, разьвеяўся, як туман, а людзі, народ, адзінства грамадзтва засталіся.

Выказаныя палажэньні адлюстраваныя ў шмат якіх дакумэнтах і ў практычнай дзейнасьці БНФ. Такая палітыка дае плён, мае пэрспэктыву, спрыяе адраджэньню народу. І самае галоўнае, такі антыкамунізм, пабудаваны на бескампраміснасьці пазыцый і гуманных прынцыпах у адносінах да чалавека, такі антыкамунізм больш эфэктыўны і карысны для грамадзтва, чым просталінейная лабавая канфрантацыя.

Павінен сказаць, што, як паказала жыцьцё, КПСС бясьсільная ў дачыненьні да такой палітыкі Фронту. Супраць гэтага яна ўжывае толькі хлусьню, хлусьню для народу і ашуканства сваіх членаў.

**Магчыма, ня вельмі актыўна, але плённа ўдзельнічае БНФ у міжнароднай палітыцы.** З найбольш пасьпяховых крокаў у гэтай дзялянцы я назваў бы перамовы ў красавіку 1990 году з прадстаўнікамі «Саюдзісу» і Вярхоўнага Савету Літоўскай Рэспублікі пра лёс Вільні і Віленшчыны, калі была прынятая сумесная заява і прадухілена магчымае разьвіцьцё падзеяў па маскоўскаму сцэнару.

Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце аказала пэўны ўплыў на рашэньне аб непадпісаньні нясприяльнага для Беларусі беларуска-польскага пагадненьня ў часе перамовін зь місіяй міністра замежных спраў Польшчы Т. Скубішэўскага. Прадстаўнік Фракцыі БНФ і цяпер удзельнічае ў падрыхтоўцы чарговых перамоў з Польшчай.

Вельмі сур'ёзна мы адносімся да спробаў рэалізацыі нашай палітычнай ідэі аб Балтыйска-чарнаморскай садружнасьці сувэрэнных дзяржаваў. Па нашай ініцыятыве двойчы адбыліся ў Менску перамовы прадстаўнікоў Народных Франтоў і народных дэпутатаў чатырох рэспублік (Латвіі, Літвы, Беларусі і Украіны). Распрацаваныя і прынятыя рэкамэндацыйныя дакумэнты, палітычная роля якіх яшчэ наперадзе.

Дэлегацыя ад Фракцыі БНФ праводзіла таксама некалькі разоў папярэднія перамовы з дэпутатамі Вярхоўнага Савету РСФСР і смаленскімі кіраўнікамі пра лёс Смаленшчыны, сустракалася зь кіраўніцтвам Вярхоўнага Савету Латвіі, вынікам чаго было афіцыйнае прабачэньне латышскага боку за памежны інцыдэнт, удзельнічалі ў іншых дачыненьнях.

Адказным за палітыку БНФ зьяўляецца яго Сойм, выбраны на Ўстаноўчым зьезьдзе ў колькасьці 55 чалавек. Цяпер засталося 53 сябры. Нас пакінуў паважаны і незабыўны Міхась Хведаравіч Дубянецкі. Падаў заяву аб выхадзе з Сойму па асабістых меркаваньнях спадар Валеры Чыжык (Эстонія).

**За два гады Сойм правёў 12 сесій і чатыры соймавыя сэмінары** на тэму пакту Молатава-Рыбэнтропа, Рыжскага дагавору 1921 году і палітыкі Польшчы ў Заходняй Беларусі, па пытаньнях права і па пытаньнях эканомікі. Сойм распрацаваў пытаньні выбарчай тактыкі, перадвыбарчую плятформу БНФ, важнейшыя палітычныя акцыі, прымаў дакумэнты па палітычных аспэктах жыцьця Рэспублікі. На жаль, перабоі з «Навінамі» не дазволілі рэгулярна асьвятляць працу Сойму, а Управа часта па тэхнічных прычынах не спраўлялася са своечасовай рассылкай дакумэнтаў, узьнікала рэгулярная неўладкаванасьць з памяшканьнем, словам, выяўляліся цяжкія ўмовы бясспраўнага існаваньня.

Тым ня менш, цяпер, усяго праз два гады, азіраючыся назад, пераконваешся, што праца Фронту была недарэмнай. **Галоўныя вынікі дзейнасьці БНФ** я адзначыў-бы наступныя.

Першае — гэта пераварот у сьвядомасьці людзей. Вялікая частка нашых грамадзянаў пад прамым і апасродкаваным уплывам Фронту ў корані перамяніла свае ўяўленьні пра сацыялізм, гісторыю Беларусі, ролю КПСС, беларускую культуру і будучыню Рэспублікі, пра войска і эканоміку, прыватную ўласнасьць і калгасы, пра Леніна і ленінізм, пра рэлігію і нацыю. Для іх адчыніліся нацыянальныя і агульначалавечыя каштоўнасьці, здаровая лёгіка і здаровы сэнс і, галоўнае, яны пазбавіліся страху перад камунізмам, адрадзіліся як свабодныя людзі.

Другое — гэта крах камуністычных ідэй, марксізму-ленінізму, разьвянчаньне фальшывага аўтарытэту намэнклятуры, выкрыцьцё палітыкі генацыду. За два гады Народны Фронт і тыя, хто яго падтрымлівае, прайшлі шлях ад спадзяваньняў на супрацоўніцтва зь «лепшымі сіламі» да прынцыповага антыкамунізму.

Трэцяе, надзвычай важнае, — усьведамленьне неабходнасьці свабоды і незалежнасьці Беларусі. Працэс асэнсаваньня гэтых ідэй інтэнсыўна паглыб...

> «... *ВІДАВОЧНЫ ПАРАДОКС БЕЛАРУСКАГА ПАРЛЯМЭНТУ, КАЛІ Ў ПАМЛЕМІЦЫ ПЕРАМАГАЮЦЬ АДНЫ, А ПРЫ ГАЛАСАВАНЬНІ — ДРУГІЯ*». — Юрый Хадыка, доктар фізыка-матэматычных навук, адзін зь лідэраў БНФ, «Літаратура і Мастацтва», 4 студзеня 1991 г.

...ляецца. Чацьвертае — праўда пра Чарнобыль.

Пятае — пачатак фармаваньня грамадзянскай супольнасьці Беларусі (утварэньне партый, рухаў, саюзаў, грамадзкіх арганізацыяў і г.д.).

Цяпер няма такога чалавека на Беларусі, які-б нічога ня чуў пра БНФ. Уяўленьні пра Народны Фронт і адносіны да яго розныя. Але кожны ведае, што БНФ — гэта апазыцыя існуючаму рэжыму, што БНФ — апазыцыя КПСС. Гэта вельмі істотна, бо калі падняты сьцяг, людзі візначаюцца.

Цяперашняе палітычнае становішча на Беларусі, аднак, ня спрыяе такому вызначэньню. Людзі стаміліся ад нэндзы і цяжкасьцяў жыцьця. Спадзяваньні, што ўзьніклі на хвалях мітынговай эўфарыі, на хуткія перамены і дэмакратызацыю не апраўдаліся. Зноў напаўзае намэнклятурная рэакцыя. Шмат у каго зьяўляецца апатыя і няверʼе нікому і нічому. Звычайная зьява для тых, хто павярхоўна ўспрыняў падзеі на Беларусі.

Грамадзкія працэсы маюць свае заканамернасьці, прылівы і адлівы. Затарможанасьць наступу рэакцыі, пагаршэньне сацыяльных умоў, падаражаньне жыцьця прадказваюць паўторны ўздым дэмакратычнага руху ў СССР, які можа пачацца, магчыма, ужо ў травені гэтага году. Ня выключана аднак і ўсталяваньне нейкага надзвычайнага рэжыму. Нікога гэта не павінна зьдзіўляць. Мы прысутнічаем пры развале імпэрыі, калі дыктатура зьяўляецца адным з магчымых і заканамерных этапаў яе агоніі. Істотна тое, што гэта апошні этап. Як выразіўся адзін палітык, дыктатура можа цяпер стварыць толькі такі Саюз, «дзе палкоўнікі за сваё жалаваньне ня купяць нават буханкі хлеба».

Нішто ўжо ня выратуе імпэрыю, нішто не ўратуе яе партыйна-дзяржаўную сыстэму. Савецкі Саюз і камунізм вычарпалі свае рэсурсы. У КПСС няма больш ніякіх ідэй, нават ашуканчкіх. Няма ніякіх пэрспэктываў, нават «бранятанкавых», бо гэта сама-губства; няма будучыні. Задача грамадзтва цярпліва вылечыцца ад гэтай скулы, каб ня лопнула незнарок, не заразіла Зямлі.

**У нашага дэмакратычнага руху ёсьць усе падставы аптымістычна глядзець у будучыню.** Паглядзім на нашу Беларусь. У нас цудоўная прыўкрасная краіна, працавіты добры народ. Мы маем рукі і розум, разьвітую навуку і прамысловасьць, навуковыя кадры і спэцыялістаў, маем ворныя землі і пэўныя прыродныя рэсурсы. У нас ёсьць усё, каб жыць добра. Няма толькі свабоды і незалежнасьці.

Дасягненьне свабоды і сувэрэнітэту Беларусі — важнейшая задача нашага пакаленьня. КПСС як сыстэма крымінальнай улады арыентаваная на імпэрскую структуру. Зьнікненьне імпэры, утварэньне сувэрэнных дзяржаваў прывядзе да ліквідацыі манаполіі КПСС. Вось чаму так трымаецца за Саюз партыйная намэнклятура. Таму сувэрэнітэт у нашым змаганьні павінен быць першасным, антыкамунізм — другасным.

Ідучы да вольнай і незалежнай Беларусі, мы павінны памятаць, што базай для дэмакратыі зьяўляецца культура — культурны, сьвядомы і свабодны чалавек. Базай для стварэньня эканамічных умоў дэмакратыі зьяўляецца прыватная ўласнасьць, адпаведныя прапарцыянальныя адносіны яе зь дзяржаўнай уласнасьцю. Гэтым двум базавым аспэктам нармальнага цывілізаванага жыцьця мы павінны прысьвяціць найбольш увагі ў нашых палітычных і рэфарматарскіх памкненьнях.

Дагэтуль асноўную ўвагу мы зьвярталі на палітыку. Цяпер, калі грамадзтва паступова скочваецца да кансэрватыўнай стагнацыі, да стану прагрэсуючай энтрапіі, Народны Фронт павінен зьвярнуць увагу на ўпарадкаваньне і ўмацаваньне сваіх структураў і асабліва на асьветніцтва, інфармацыю і друк. Праца над адраджэньнем культуры і нацыянальнай сьвядомасьці людзей павінна весьціся мэтадычна і самым сур'ёзным чынам. Бяз культурнага, сьвядомага чалавека ніякі эканамічны ўздым немагчымы.

**Эфэктыўнасьць асьветніцкай працы будзе значна залежаць ад валоданьня друкам і сродкамі масавай інфармацыі.** Патрэбна зваротная сувязь з народам. Неабходна будзе ня толькі ствараць новыя выданьні, але належна выкарыстоўваць існуючы друк.

Як вядома, асноўным сродкам культуры зьяўляецца мова. Без грамадзкага адраджэньня і дзяржаўнага ўсталяваньня беларускай мовы ніякага разьвіцьця нацыянальнай культуры не адбудзецца, ніякіх варункаў для вяртаньня ў цывілізаваную Эўропу ня створыцца і ўся наша палітычная энэргія растрацiцца ўпустую. Трэба пазбаўляцца ад дэмакратычных ілюзій і вульгарнага інтэрнацыяналізму, які прыводзіць да ахлакратыі і бяскультур'я. Трэба брацца за канкрэтную гуманную і дэмакратычную працу. Кожны сябра Народнага Фронту, кожны сябра партыі, якая лічыць сябе дэмакратычнай, павінен імкнуцца ведаць і размаўляць на беларускай мове. Інакш, — што, якое грамадзтва, якія каштоўнасьці мы зьбіраемся адраджаць?

Я ўжо казаў, што, у значнай ступені дзякуючы дзейнасьці Народнага Фронту, пачалі ствараццa на Беларусі розныя партыі і грамадзкія арганізацыі. Калі ў 1988 годзе БНФ утварыўся як канфэдэрацыя дэмакратычных людзей, то цяпер узьніклі клясычныя варункі для Фронту як канфэдэрацыі партый. Можна сумясьціць гэтыя два падыходы. БНФ павінен пабудаваць сваю структуру так, каб стварыць найлепшыя варункі для каардынацыі агульнай працы з дэмакратычнымі партыямі і арганізацыямі. Дзеля гэтага варта рэарганізаваць структуру Сойму і выдзеліць 50% адкрытай квоты для прадстаўнікоў тэрыторыяў, партыяў і арганізацыяў, якія захочуць выступаць разам з БНФ. Кожная партыя тады зможа дэлегаваць у Сойм БНФ сваіх прадстаўнікоў.

Павінен падкрэсьліць, што згодна з дэмакратычнымі прынцыпамі ўсе партыі і грамадзкія арганізацыі, якія падтрымліваюць палажэньні і мэты БНФ і пажадаюць увайсьці ў Народны Фронт, павінны быць поўнасьцю сувэрэннымі ў межах сваіх статутаў, незалежнымі і вольнымі ў дзеяньнях. Яны каардынуюць сваю працу ў агульнай справе і агульных акцыях Фронту.

Зрэшты, ажыцьцяўленьне гэтых варункаў яшчэ наперадзе. Яно прыйдзе разам з палітычным высьпяваньнем і ўсьведамленьнем адзінства дэмакратычнага руху, адзінства нашага народу, пэўнасьці ў будучыні.

Мне думаецца, што Беларускі Народны Фронт дастаткова пасталеў за два годы цяжкага змаганьня, пасталеў настолькі, каб узяць будучыню адраджэньня Беларусі на свае плечы (а іншых няма), узяць на сябе і мужна пайсьці за пуцяводнай зоркай свабоды, што сьвеціць нам у зэніце, заклікаючы да веры ў выбраны шлях.

## ШЛЯХ ДА СВАБОДЫ

БНФ «Адраджэньне» ўважае, што беларускі шлях да незалежнасьці йдзе праз выкананьне Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР, праз прыняцьцё адпаведных законаў.

БНФ «Адраджэньне» выступае за прамыя пагадненьні Беларусі зь іншымі дзяржавамі, супраць удзелу нашае Рэспублікі ў Саюзным дагаворы, які захоўвае фэдэратыўную, а фактычна ўнітарную дзяржаву.

БНФ лічыць немагчымым ажыцьцяўленьне эканамічных рэформаў на Беларусі да прыняцьця Закону пра грамадзянства й выступае за наданьне грамадзянства Рэспублікі на момант прыняцьця закону ўсім, хто жыве й мае на яе тэрыторыі законныя крыніцы існаваньня (акрамя вайскоўцаў тэрміновае службы), а надалей улічваць цэнз аседласьці й веданьне дзяржаўнае мовы.

Беларусь павінна праводзіць самастойную зьнешнюю палітыку, выкарыстоўваць свой статус краіны-заснавальніка ААН дзеля ўмацаваньня незалежнасьці, выхаду з гаспадарчага крызісу, дзеля арганізацыі й каардынацыі дапамогі Рэспубліцы — ахвяры Чарнобыльскае катастрофы.

«Адраджэньне» выступае за забарону ў Рэспубліцы дзейнасьці палітычных сілаў, кіраваных з-за яе межаў.

Беларускі Народны Фронт дамагаецца падпарадкаваньня праваахоўных органаў на тэрыторыі Рэспублікі яе ўладам, выступае за роспуск службаў КДБ СССР на тэрыторыі Беларусі і за стварэньне рэспубліканскае службы грамадзкае бясьпекі.

БНФ «Адраджэньне» прапануе паэтапную вайсковую рэформу: увядзеньне права грамадзянаў Рэспублікі праходзіць вайсковую службу на яе тэрыторыі; стварэньне рэспубліканскае гвардыі, падпарадкаванай Вярхоўнаму

*(Працяг на 4-й б.)*

# ШЛЯХ ДА СВАБОДЫ

*(Працяг зь 3-й б.)*

Савету Рэспублікі, а таксама падразьдзяленьняў альтэрнатыўнае службы дзеля выкананьня праграмы перасяленьня з заражаных зонаў; неразьмяшчэньне на Беларусі новых вайсковых адзінак Савецкае арміі, заключэньне пагадненьняў на побыт наяўных вайсковых адзінак ды іх паступовы вывад з тэрыторыі Рэспублікі (пры забесьпячэньні сацыяльных гарантыяў афіцэрам); поўны вывад у акрэсьлены пэрыяд зь Беларусі ядзернай зброі; кампэнсацыю Рэспубліцы й мясцовым органам улады за прычыненую экалягічную шкоду.

БНФ «Адраджэньне» лічыць, што ў пэрыяд пераходу да незалежнасьці:

— дзейнічаюць толькі тыя нормы цяперашняй Канстытуцыі БССР і заканадаўчыя акты, якія не супярэчаць Дэклярацыі пра сувэрэнітэт Беларусі й міжнародным пагадненьням аб правох чалавека;

— найвышэйшую дзяржаўную ўладу ў Рэспубліцы ажыцьцяўляе яе Вярхоўны Савет;

— рыхтуюцца ўмовы для правядзеньня выбараў ва Ўсебеларускі Ўстаноўчы Сойм, які вызначыць надалей форму дзяржаўнае ўлады й дзяржаўнага кіраваньня Беларусі.

У эканоміцы, палітыцы й культурным жыцьці Беларусі неабходна дэмантаваць таталітарныя структуры. Павінны адбыцца наступныя працэсы.

ДЭКАМУНІЗАЦЫЯ. Дыктатура КПБ-КПСС — галоўная перашкода на шляху да свабоды. Камуністычная партыя стварыла сыстэму манапольнае ўлады, паглынула ўсе дзяржаўныя інстытуты, разбурыла грамадзянскую й падарвала нацыянальную супольнасьць.

Дэкамунізацыя мае на ўвазе дэпалітызацыю й дэпартызацыю дзяржаўных, гаспадарчых, навуковых, культурных, асьветных установаў; дэідэялягізацыю й дэпартызацыю навукі, культуры, народнай адукацыі; нацыяналізацыю маёмасьці КПБ-КПСС як незаконна набытае.

Дэкамунізацыя не азначае прымусовага роспуску КПБ-КПСС або перасьледу за былое ці цяперашняе членства ў гэтай арганізацыі. Павінна быць скасаваная манаполія КПСС на ўладу, забясьпечаныя роўныя ўмовы для ўсіх палітычных сілаў.

КАНСТЫТУЦЫЙНЫ ПРАЦЭС. Прынцыпы праўнае дзяржавы на Беларусі замененыя сыстэмаю ценевае ўлады КПБ-КПСС. Таму неабходна прыняць новую Канстытуцыю Беларусі, распрацаваную на падставе Дэклярацыі аб сувэрэнітэце й міжнародных дакумэнтах аб правох чалавека, і прывесьці заканадаўства ў адпаведнасьць зь ейнымі прынцыпамі.

РЭФОРМА СЫСТЭМЫ ЎЛАДЫ. Адна з прычынаў цяперашняга крызісу ўлады — у нядзейснай савецкай форме кіраваньня. Яе неабходна замяніць прафэсійным парлямантам — Соймам — і сыстэмаю муніцыпальных самаўрадаў на мясцох, пры гэтым пасьлядоўна ажыцьцяўляць прынцып падзелу ўлады на заканадаўчую, выканаўчую й судовую.

УТВАРЭНЬНЕ ГРАМАДЗЯНСКАЕ СУПОЛЬНАСЬЦІ. Разьвіцьцё шматстайных формаў грамадзкага жыцьця, эканамічныя, палітычныя, рэлігійныя, прафэсійныя ды іншыя аб'яднаньні грамадзянаў неабходныя дзеля рэальнае самадзейнасьці грамадзтва, ураўнаважаньня інтарэсаў розных яго пластоў, ажыцьцяўленьня новых палітычных задачаў. БНФ «Адраджэньне» будзе спрыяць станаўленьню новых недзяржаўных грамадзянскіх інстытутаў, незалежных ад камуністычнае сыстэмы ўлады, будзе дамагацца прыняцьця адпаведных заканадаўчых актаў.

Палітычная сытуацыя на Беларусі вымагае згуртаваньні антытаталітарных сілаў у барацьбе з камуністычным самаўладзтвам, у стварэньні дэмакратычных грамадзкіх структураў, у выкарыстаньні формаў непасрэднае дэмакратыі. БНФ адкрыты да супрацоўніцтва зь сіламі, якія вызнаюць падстаўовыя каштоўнасьці дэмакратыі, незалежнасьці Беларусі, нацыянальна-культурнага адраджэньня.

БНФ «Адраджэньне» выступае за кардынацыю ўсіх дэмакратычных і незалежніцкіх сілаў Беларусі ў падрыхтоўцы й правядзеньні выбараў ва Ўстаноўчы Сойм. Выбары ў новы найвышэйшы орган улады Беларусі павінны адбыцца на шматпартыйнай аснове паводле дэмакратычнага выбарчага закону.

ПЕРАХОД ДА РЫНКАВЫХ ДАЧЫНЕНЬНЯЎ. Палітычная ды іншая свабода немагчымая без забесьпячэньня эканамічнае свабоды чалавека й дзяржавы.

Таталітарная ўлада ня можа перайсьці да рынкавых дачыненьняў, бо мае антырынкавую сутнасьць. Дзяржаўна-манапалістычная эканоміка няздольная забясьпечыць дабрабыт народу, напоўніць рынак таварам, забясьпечыць прыярытэтнае разьвіцьцё пэрспэктыўных галінаў вытворчасьці ды навукі. Гэта — эканоміка дэфіцыту, выгодная толькі партыйна-дзяржаўнай намэнклятуры, якая, дзякуючы кантролю за разьмеркаваньнем, захоўвае манаполію на ўладу й свой дабрабыт. Большая частка прыбытку трацілася на забесьпячэньне трываласьці гэтай улады: на вайскова-прамысловы комплекс, армію, дзяржбясьпеку.

Гэтая эканамічная сыстэма вычарпала сябе, яна перажывае глыбокі крызіс, які пераходзіць у катастрофу. Адзіны паратунак — перавод эканомікі на рынкавыя прынцыпы, забесьпячэньне прыярытэту прыватнай уласнасьці.

Доля дзяржаўнае ўласнасьці павінна быць дастатковаю для рэгуляваньня эканамічных працэсаў.

Непазьбежнасьць прыватызацыі разумее й намэнклятурная каста, якая заспалохвае народ рынкам і ў той-жа час, выкарыстоўваючы свае прывілеяванае становішча, манапольна прыватызуе дзяржаўную й партыйную маёмасьць, каб зьмяніць партыйную ўладу над народам на фінансавую.

Такі варыянт прыватызацыі вядзе да паглыбленьня сацыяльнае несправядлівасьці, да нараджэньня новага манапалізму з усімі яго хібамі, пагражае сацыяльным выбухам. БНФ рашуча выступае супраць апаратнае партыйнае прыватызацыі.

БНФ «Адраджэньне» прапануе вырашыць пытаньні стабілізацыі фінансавай сыстэмы, без чаго пераход да рынку немагчымы.

Дзяржаўна-манапалістычная машына на працягу ўсяе свае гісторыі жорстка эксплюатавала народы. У так званай «агульнанароднай уласнасьці» ёсьць доля працы кожнага ды ягоных продкаў. БНФ выступае за вяртаньне адпаведнае долі гэтае ўласнасьці кожнаму грамадзяніну Беларусі, за роўныя магчымасьці пры ўваходзе ў рынкавыя дачыненьні, за сацыяльную абарону пры пераходзе да рынку, за максымальна сьціслыя тэрміны такога пераходу.

Найбольш справядлівы й дэмакратычны шлях прыватызацыі ў варунках Беларусі — гэта перадача кожнаму грамадзяніну Рэспублікі права на ягоную долю прыватызаванае дзяржаўнае ўласнасьці ў выглядзе каштоўных папераў. Укладаньне сродкаў у розныя сфэры вытворчасьці прыватнымі асобамі створыць рынкавы мэханізм структурнае перабудовы эканомікі, пераарыентуе яе на спажыўца.

БНФ «Адраджэньне» выступае за перавод у прыватны сэктар, як найбольш дынамічны й прыстасаваны да патрэбаў грамадзтва, большае часткі асноўных фондаў вытворчасьці. Аб'ектамі прыватызацыі найперш павінны стаць прадпрыемствы цяперашняга рэспубліканскага й саюзнага падпарадкаваньня, зямля, дзяржаўны жыльлёвы фонд. Павінны быць створаныя органы ацэнкі кошту прыватызаванае маёмасьці, фондавая біржа. Частка маёмасьці мусіць застацца ў дзяржаўнай уласнасьці для выкарыстаньня ўрадам Рэспублікі ў стратэгічных агульнанародных мэтах. БНФ дамагаецца прыняцьця Закону аб прыватызацыі.

Беларусь павінна прайсьці празь пераходны пэрыяд, каб падрыхтаваць эканамічныя, культурныя й палітычныя перадумовы незалежнасьці.

СТВАРЭНЬНЕ САМАСТОЙНАЕ ЭКАНАМІЧНАЕ СЫСТЭМЫ. Апірышча дзяржаўна-манапалістычнае эканомікі — савецкая імпэрыя, якая праводзіць разбуральную эмісійна-канфіскацыйную фінансавую палітыку. Расьце інфляцыя, падае курс рубля.

Беларусь ня можа быць зацікаўленая ў аздараўленьні свае эканамікі, дакуль яе абслугоўвае адзіны інфляцыйны рубель, наплыў якога з-за межаў Рэспублікі зводзіць на нішто захады дзеля стабілізацыі рынку. БНФ «Адраджэньне» выступае за хутчэйшае ўвядзеньне ў абарачэньне беларускае грашовае адзінкі (талера), забясьпечанага набыткам Рэспублікі й эмітаванага Беларускім банкам, падлеглым толькі Вярхоўнаму Савету Рэспублікі.

БНФ уважае, што, паколькі Беларусь брала ўдзел у стварэньні агульнасаюзнае ўласнасьці, яна мае права распараджаць былой саюзнай уласнасьцяй на сваёй тэрыторыі, а таксама сваёю часткай залатога й алмазнага запасаў ды валютнага фонду СССР.

На думку БНФ, шлях да эканамічнага сувэрэнітэту мае на ўвазе падатковую рэформу, г.зн. пераход да падаткаў з усіх гаспадарчых суб'ектаў у казну, якую выключна Беларускае дзяржавы й самаўрадаў. Узровень падаткаў не павінен стрымліваць прадпрымальніцкую ініцыятыву.

БНФ «Адраджэньне» выступае за распрацоўку й прыняцьцё гаспадарчага кодэксу, які-б забясьпечыў умовы для шырокай прадпрымальніцкай дзейнасьці, гарантаваў устойлівасьць гэтых умоваў і забясьпечваў канкурэнцыю. БНФ — за індэксацыю выплатаў пэнсіянерам, студэнтам, інвалідам, шматдзетным, тым, хто знаходзіцца на дзяржаўнай службе.

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА. БНФ «Адраджэньне» лічыць, што галоўная падстава сацыяльнае справядлівасьці — роўныя магчымасьці для кожнага й непарушнае права ўласнасьці чалавека, у тым ліку на свае інтэлектуальныя й фізычныя здольнасьці.

БНФ выступае за скасаваньне сыстэмы намэнклятуры і ўсіх прывілеяў. БНФ — за сацыяльныя гарантыі для найменш забясьпечаных на пэрыяд карэнных эканамічных рэформаў, за льготы для інвалідаў, пэнсіянераў, шматдзетных. Фронт выступае за дзяржаўную палітыку абароны й падтрымкі сям'і.

БНФ лічыць неабходным стварэньне дзяржаўнае сыстэмы перападрыхтоўкі для вызваленых у выніку пераўтварэньня гаспадаркі.

БНФ падтрымлівае пашырэньне страхавой медыцыны.

ВЫЖЫВАНЬНЕ. БНФ «Адраджэньне» сьцьвярджае, што Беларусі патрэбная не канцэпцыя пераадоленьня вынікаў Чарнобыльскае катастрофы — пераадолець іх немагчыма — але канцэпцыя **выжываньня** беларускага народу ў надзвычай няспрыяльных варунках.

БНФ патрабуе неадкладна распачаць высяленьне людзей з найбольш заражаных тэрыторыяў і лічыць злачыннымі спробы затрымаць іх. БНФ дамагаецца зарыентаваньня ўсіх рэсурсаў на праграму масавага перасяленьня, патрабуе спыніць вытворчасьць харчовых прадуктаў на заражаных тэрыторыях. «Адраджэньне» лічыць, што Беларусь мае права на кампэнсацыю стратаў ад Чарнобыля й павінна дамагацца яе міжнародна прызнаным чынам.

Дзеля зьберажэньня й рэгенэрацыі на Беларусі як мага больш здаровага навкольнага асяродзьдзя БНФ дамагаецца: прыняцьця адпаведнага пасьлячарнобыльскай эпосе прыродаахоўнага заканадаўства; незалежнае экалягічнае экспэртызы народнагаспадарчых праектаў, а таксама вайсковых аб'ектаў на тэрыторыі Рэспублікі; увядзеньня абгрунтаванае платы за прыродныя рэсурсы; перапрафіляваньня або закрыцьця прадпрыемстваў, ня здольных забясьпечыць міжнародна прынятую ступень экалягічнае бясьпекі вытворчых працэсаў.

* * *

БНФ зыходзіць з таго, што пры станаўленьні грамадзянскай супольнасьці аб'ядначую ролю ў барацьбе супраць таталітарызму, за дэмакратыю й сувэрэнітэт Беларусі мусіць выконваць супольнасьць нацыянальная. Толькі свабодны, культурны, скансалідаваны народ, а не паднявольнае, запалоханае, разьяднанае насельніцтва, здольны стварыць і развіваць. Перадумова кансалідацыі ды выжываньня беларускае нацыі — гэта адраджэньне яе культуры.

АДРАДЖЭНЬНЕ КУЛЬТУРЫ Й НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СЬВЕДАМАСЬЦІ. БНФ «Адраджэньне» зыходзіць з таго, што прагрэс чалавецтва магчымы толькі ў шматстайнасьці народаў; што пэрспэктыва Беларусі залежыць ад кансалідацыі беларускага народу на падставе дэмакратычных і нацыянальна-культурных каштоўнасьцяў. Нацыянальнае адзінства — гарантыя выжываньня Беларусі ў надзвычайных эканамічных, палітычных, этнамоўных, экалягічных варунках.

Улічваючы, што Беларусь ёсьць спрадвечнаю й адзінаю Бацькаўшчынай беларускага народу і толькі тут ён можа захаваць самабытнасьць, БНФ выступае:

— за дзяржаўную палітыку разьвіцьця й аховы беларускае культуры й мовы пры дапамозе адпаведных законаў ды эфэктыўны кантроль за іх выкананьнем, за прыярытэт беларускае мовы ў дзяржаўным і грамадзкім жыцьці;

— за адраджэньне і ўмацаваньне беларускае нацыянальнае сьведамасьці, гістарычнае памяці;

— супраць спробаў асыміляцыі беларускага этнасу: палітыкі «двумоўя», скіраванай на недапушчэньне беларускае мовы ў ключавыя сфэры дзяржаўнага й грамадзкага жыцьця; палітыкі зьмяншэньня адноснае колькасьці карэннага этнасу на Беларусі;

— за дзяржаўную і грамадзкую падтрымку імкненьня захаваць нацыянальную тоеснасьць Беларусаў за межамі Беларускае рэспублікі, асабліва насельнікаў этнічна беларускіх земляў;

— за права кожнай этнічнай супольнасьці Беларусі на культурна-нацыянальную аўтаномію, на дзяржаўную дапамогу ў культурна-асьветнай дзейнасьці.

БНФ «Адраджэньне» сьцьвярджае, што Беларусь можа вярнуцца ў эўрапейскую й сусьветную супольнасьць на-

 

родаў толькі праз адраджэньне шматвяковых культурных і навуковых традыцыяў.

БНФ выступае за свабоду творчасьці, культурнай і навуковай дзейнасьці на падставе агульначалавечых і нацыянальных маральных ды эстэтычных каштоўнасьцяў, за дзяржаўную падтрымку разьвіцьцю асьветы, навукі, культуры.

БНФ дамагаецца дэпалітызацыі й дэмілітарызацыі адукацыйнае сыстэмы, лічыць мэтазгоднаю шматстайнасьць формаў арганізацыі адукацыі (прыватныя навучальныя ўстановы), выступае за дзяржаўны кантроль за ўзроўнем базавай адукацыі й захаваньнем нацыянальных прыярытэтаў у адукацыйных установах. БНФ «Адраджэньне» лічыць жыцьцёва важным дзеля будучыні беларускага народу прыняцьцё канцэпцыі нацыянальнай адукацыі.

БНФ патрабуе дэмакратызацыі навуковага жыцьця Рэспублікі, яго вызваленьня з-пад ваеннага ведамства; эканамічнага прадухіленьня эміграцыі інтэлекту з Рэспублікі. «Адраджэньне» лічыць інтэлектуальны патэнцыял Беларусі найважнейшаю падставай яе дабрабыту.

Адраджэньню грамадзянскае супольнасьці, маральнасьці, сям'і як падставовай каштоўнасьці будзе спрыяць адраджэньне веры — істотнага чыньніка паўнавартаснага духоўнага жыцьця чалавека.

БНФ выступае за свабоду веравызнаньня й рэлігійнае дзейнасьці ў Рэспубліцы, за роўнасьць канфэсіяў, за адзьдзяленьне атэістычнае прапаганды ад дзяржавы. БНФ рашуча пярэчыць спробам выкарыстоўваць вызнаньні дзеля расколу й разбурэньня беларускага этнасу. «Адраджэньне» — за грамадзка-нацыянальнае адзінства вернікаў і атэістаў Беларусі, за пераклад набажэнства ў рэлігійных супольнасьцях, якія гуртуюць пераважна Беларусаў, на беларускую мову.

Незалежнасьць Беларусі, праўная беларуская дзяржава, беларускае нацыянальна-культурнае адраджэньне — прыступкі да адраджэньня найвялікшае каштоўнасьці — ЧАЛАВЕКА, асобы, яе духоўнасьці, годнасьці й таленту. Галоўнае багацьце нашае Бацькаўшчыны — яе народ. Жыве народ — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ.

24 сакавіка 1991 г.
г. Менск

## УХВАЛА

**ў справе Праграмнай заявы Беларускага Народнага Фронту**

1. Прыняць Праграмную заяву Беларускага Народнага Фронту як кіраўніцтва да дзеяньня і асноўны напрамак дзейнасьці сяброў БНФ.

2. Пацьвердзіць, што палажэньні Праграмы Беларускага Народнага Фронту, прынятай на I зьезьдзе БНФ у Вільні, дзейнічаюць у той меры, у якой яны не супярэчаць гэтай Праграмнай заяве.

24 сакавіка 1991 г.
г. Менск.

# ПРАГРАМНАЯ ЗАЯВА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**прынятая на II-м зьезьдзе БНФ 24 сакавіка 1991 г.**

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" паўстаў як шырокі рух прыхільнікаў радыкальных зьменаў на карысьць дэмакратыі, дзяржаўнага сувэрэнітэту й нацыянальнага адраджэньня Беларусі. Ён стаў рэальнаю палітычнаю сілаю, што процістаіць таталітарнай сыстэме. Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце БССР, дэмакратычныя фракцыі ў Саветах усіх узроўняў вядуць змаганьне за інтарэсы народу, за будучыню Беларусі. Фронт прабіў мур маўчаньня вакол Чарнобыля, змусіў улады прымаць захады дзеля ратаваньня людзей ад ядзернае бяды й бярэ ўдзел у гэтай справе. Палітычная дзейнасьць Фронту "Адраджэньне" прывяла да зьдзяйсьненьня многіх пунктаў яго Праграмы, прынятае на Ўстаноўчым зьезьдзе. Найважнейшае дасягненьне — прыняцьцё Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі.

Галоўны плён дагэтуляшняй дзейнасьці Фронту — гэта згуртаваньне людзей дэмакратычнае, незалежніцкае, нацыянальна-адраджэнскае сьведамасьці, гэта разбурэньне стэрэатыпнага ўяўленьня пра беларускі народ як здольны толькі да пасыўнага апору камуністычна-імпэрскім сілам, гэта засьветчаная перад сьветам воля нашага народу да свабоднага й цывілізаванага жыцьця, да вяртаньня ў сям'ю эўрапейскіх народаў.

Чарговы этап дзейнасьці БНФ "Адраджэньне" розьніцца ад папярэдняга. Палітычна пасталела грамадзтва, зьмянілася сытуацыя вакол Беларусі. Канчаткова дыскрэдытавала сябе КПСС і яе арганізацыя на Беларусі, арганічна ня здольная пайсьці або хаця-б згадзіцца на карэнныя пераўтварэньні ў грамадзтве, эканоміцы, пагадзіцца зь непазьбежнасьцяй распаду савецкае імпэрыі. Правалілася палітыка перабудовы, бо не пайшла далей спробаў касмэтычнага рамонту аджылае сыстэмы. Кампартыя стала галоўнаю рэакцыйнаю сілай у грамадзтве. Пры яе панаваньні паглыбляецца эканамічны крызіс, пераходзячы ў катастрофу. Церпіць крах сыстэма Саветаў, ад свайго зараджэньня несумяшчальная з прынцыпам падзелу заканадаўчае, выканаўчае ды судовае ўлады; намаганьні дэмакратаў у Саветах зьмяніць становішча да лепшага марнуе камуністычная большасьць; у выніку наступае параліч улады.

Апірышча ўлады КПБ — унітарны Савецкі Саюз. Зь яе дапамогай імпэрскі цэнтар не дапушчае рэалізацыі Дэклярацыі аб сувэрэнітэце Рэспублікі, паранейшаму эксплюатуючы народ Беларусі. Наша краіна не дачакалася ад Крамля кампэнсацыі за Чарнобыль, а камуністычнае кіраўніцтва Рэспублікі ня мае ні жаданьня, ні ўмоваў, каб дзейсна ратаваць людзей Беларусі ад атамнае бяды, адстаяць суврэрэнітэт беларускае дзяржавы. У Рэспубліцы нарастае палітычны крызіс.

За некалькі гадоў адноснае дэмакратызацыі на Беларусі толькі пачалося фармаваньне грамадзянскае супольнасьці й адраджэньне нацыянальнае сьвядомасьці. Недастаткова згуртаванае, нацыянальна індыфэрэнтнае ў сваёй большасьці грамадзтва застаецца падатным на палітычную апатыю; камуністычная партыя можа выкарыстаць гэту асаблівасьць Беларусі ў крызісных умовах для гвалтоўнага вяртаньня ў таталітарную эпоху. Бліжэйшая задача БНФ "Адраджэньне" — не дапусьціць падобнага разьвіцьця падзеяў.

Паўстала неабходнасьць карэкцыі Праграмы БНФ "Адраджэньне": удакладненьне мэтаў, задачаў руху, шляхоў іхняга дасягненьне. Большасьць палажэньняў Праграмы, асабліва канкрэтнага характару, захоўвае моц.

Зважаючы на зьмену грамадзка-палітычных і нацыянальна-культурных варункаў на Беларусі, пацьвярджаючы пераемнасьць з Праграмаю БНФ «Адраджэньне» і разьвіваючы яе палажэньні, II Зьезд Фронту прымае Праграмную заяву.

# ПРАГРАМНАЯ ЗАЯВА Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

## СВАБОДА — НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ — АДРАДЖЭНЬНЕ

Настаў вырашальны час у гісторыі нашае Бацькаўшчыны. Ці быць дэмакратычнай незалежнай дзяржаве Беларусі, ці быць беларускаму народу — вызначаецца зараз.

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» — гэта шырокі грамадзка-палітычны рух грамадзянаў, партыяў, арганізацыяў, якія выступаюць за свабоду і дэмакратычныя ідэалы, за дзяржаўную незалежнасьць і нацыянальнакультурнае адраджэньне Беларусі. Фронт гуртуе людзей незалежна ад іхняга сацыяльнага стану, прафэсійнае, нацыянальнае, партыйнае, рэлігійнае прыналежнасьці. Удзел у Фроньце несумяшчальны з прапагандаю таталітарнае ідэялёгіі, клясавае, нацыянальнае, расавае, рэлігінае нецярпімасьці.

БНФ «Адраджэньне» дзейнічае ў межах Канстытуцыі БССР. Фронт абірае дэмакратычныя, негвалтоўныя, гуманныя мэтады палітычнае дзейнасьці: удзел прадстаўнікоў БНФ у выбарных органах улады й самакіраваньня, масавыя палітычныя акцыі, распрацоўка праграмаў канцэпцыяў, законапраектаў, агітацыя і прапаганда. Крайняю мерай палітычнае барацьбы Фронт лічыць грамадзянскае непадпарадкаваньне Істотны кірунак працы БНФ — культурнаасьветная справа. Фронт займаецца дабрачыннаю й гаспадарчаю дзейнасьцю.

* * *

Панаваньне камуністычнае ўлады прывяло Беларусь да эканамічнага, палітычнага й культурнага крызісу, да экалягічнае бязвыходнасьці. Адраджэньне дэмакратычнага грамадзтва, стварэньне здаровае эканомікі, вяртаньне да спрадвечных нацыянальна-культурных і маральных каштоўнасьцяў магчымае толькі пры скасаваньні таталітарнае сыстэмы, дэкамунізацыі дзяржаўнага ды грамадзкага жыцьця Рэспублікі, нацыянальнае кансалідацыі. У сваю чаргу толькі ў незалежнай дзяржаве магчымае існаваньне грамадзтва, аснова якога — вольная асоба й агульначалавечыя каштоўнасьці.

Раўназначныя і ўзаемазьвязаныя *задачы* БНФ «Адраджэньне» — дэмакратызацыя грамадзкага жыцьця на Беларусі й адраджэньне грамадзянскае супольнасьці, нацыянальна-культурнае адраджэньне народу.

ГАЛОЎНАЯ МЭТА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ» — ВОЛЬНЫ ЧАЛАВЕК У АДРОДЖАНАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ.

Большае каштоўнасьці за чалавека на Зямлі няма, мера ўсіх рэчаў — свабода асобы. Дзесяцігодзьдзі таталітарызму не абвергрлі гэтае вечнае праўды. Наш палітычны ідэал — свабоднае грамадзтва й праўная дзяржава, угрунтаваны на сьведамай згодзе грамадзянаў дэмакратычны лад, які гарантуе правы меншасьці.

БНФ імкнецца да стварэньня грамадзтва, дзе прызнаецца абсалютны характар унівэрсальных правоў чалавека, дзе прыватнае жацьцё асобы — недатыкальнае. Прынцып самаарганізацыі такога грамадзтва — не чалавек дзеля дзяржавы, але дзяржава дзеля чалавека. Крыніцаю ўлады ў дзяржаве павінен быць народ; ніякі грамадзянін або палітычная арганізацыя ня маюць пераважнага права на ўладу. Палітычны плюралізм — неабходная ўмова дэмакратыі.

Вольна абраная публічная ўлада адказная перад народам, самаабмежаваная і падзаконная. Ад злаўжываньня ўладаю грамадзтва ахаванае падзелам яе на тры незалежныя галіны: заканадаўчую, выканаўчую й судовую.

Беларуская пэрспэктыва — у разьняволеньні таленту й працы народу, калі кожная асоба ўпэўнена, што плён яе працы належыць ёй, калі праца й талент кожнага чалавека паважаецца грамадзтвам. Гэтую ўпэўненасьць, як сьветчыць тысячагадовы гістарычны досьвед чалавецтва, дае прыватная ўласнасьць на зямлю ды іншыя сродкі вытворчасьці, трывалая сыстэма грамадзянскае супольнасьці, моцная здаровая сям'я, паўнавартаснае духоўнае жыцьцё.

Эканамічнаю базай палітынае дэмакратыі ёсьць эканамічная свабода — права кожнага валодаць уласнасьцю й распараджацца ёю. У праўнай дзяржаве кожнаму грамадзяніну гарантуецца сьвятое права недатыкальнасьці ўласнасьці. Бяз гэтага палітычны плюралізм, дэмакратыя, эканамічны прагрэс немагчымыя, бо інакш усе робяцца нявольнікамі адзінага ўсемагутнага ўласьніка — дзяржавы або пануючае партыі, якая ў адначасьсе можа адабраць у чалавека ўсё.

Грамадзяне, карыстаючыся сваімі правамі, ствараюць прадпрыемствы й арганізацыі, кансалідуюцца ў грамадзянскую супольнасьць. Яна падпарадкоўвае дзяржаву, ператтварае яе ў апарат, які служыць грамадзтву й кожнаму грамадзяніну.

Свабода асобы й дэмакратычнае грамадзтва рэалізуюцца толькі ў НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВЕ. Самастойная дзяржава — гэта сьветчаньне высокае культуры народу, яго неад'емнае права, умова яго вольнага ўсебаковага разьвіцьця, гэта трывалая гарантыя палітычных і эканамічных правоў грамадзянаў, гэта забясьпечаная гістарычная будучыня народу. Народ павінен сам распараджацца сваім лёсам, выбіраць форму дзяржаўнага кіраваньня і ўлады. Народ, ня здольны да незалежнага дзяржаўнага існаваньня, рана ці позна дэградуе, раствараецца, зьнікае.

Беларускі народ заваяваў і выпакутаваў права на дзяржаўную незалежнасьць усім сваім гістарычным шляхам. Дзяржаўнасьць Беларусі ўвасаблялася ў Полацкім княстве, у Вялікім Княстве Літоўскім зь яго традыцыямі праўнае дзяржавы й цярпімасьці. Воля Беларусі да незалежнасьці выявілася ў паўстаньнях супроць Расейскае імпэрыі XIX ст., у рэвалюцыйных выступах 1905 й 1917 гадоў. Правамоцным выразам імкненьня да незалежнае дзяржаўнасьці стала абвешчаньне 25 сакавіка 1918 г. Радаю Ўсебеларускага Зьезду

*(Працяг на 9-й б.)*



 

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Прэзыдыюм Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і рэдакцыя газэты «Беларус» віншуюць

**СП. ВАСІЛЯ СТОМУ**

**даўгагадовага грамадзкага працаўніка, з нагоды 80-х угодкаў жыцьця, што споўніліся 4-га сакавіка 1991 г., ды шчыра зычаць добрага здароўя і далейшай плённай працы на грамадзкай ніве.**

## НЬЮ-ЁРК — НЬЮ-БРАНСЬВІК

Сёлетняе сьвяткаваньне, як заўсёды, арганізаванае галоўнай управай Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, адздзеламі Нью-Ёрк і Нью-Джэрзы, больш як папярэднімі гадамі, правяла моладзь, сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі (АБАМ, старшыня др. Юрка Кіпель), зь якіх шмат хто належыць да танцавальнага гуртка «Васілёк».

Пасьля ўрачыстае багаслужбы ў царкве Жыровіцкае Божае Маці адбылася ў прасторнай залі гатэлю Гаят-Рыджэнсы акадэмія, якую адчыніў і вёў др. Ю. Кіпель. Пасьля прысягі на вернасьць амэрыканскаму сьцягу Віктар Тур адсьпяваў амэрыканскі гімн. Айцец Васіль Андрэюк сказаў малітву. Сябры «Васілька», падрыхтаваныя др. Алай Орса-Рамана, выступілі з дэклямацыйнай вязанкай вершаў беларускіх клясыкаў. У дэклямаваньні ўзялі ўдзел: Бася Кучынская, Коля Рамана, Ліда Данілюк, Галіна Бахар, Вера Запруднік, Віктар Тур, Юрка Азарка, Павал Рамана.

Беларускі Народны Фронт і ягонага лідэра Зянона Пазьняка.

Студэнтка мэдыцыны Бася Кучынская зрабіла добры даклад пра значэньне Акту 25 Сакавіка для Беларусаў Беласточчыны (будзе зьмешчаны ў наступным нумары «Б-са»).

Др. Янка Запруднік у сваім выступленьні гаварыў пра справу дапамогі беларускаму адраджэньню на Бацькаўшчыне.

У мастацкай частцы праграмы выступілі сьпевакі з ансамблю «Жывіца»: Валянтына Пархоменка, Алесь Казак і іхная дачушка Вольга Казак зь беларускімі народнымі і патрыятычнымі песьнямі.

Праграму завяршыў ансамбль «Дубіны» ў складзе Пётры Скепкі, Галіны Якімюк, Андрэя Іванюка й Віктара Тура.

Са словамі падзякі Беларусам за падтрымваньне справы вызваленьня Летувы выступіў літоўска-амэрыканскі грамадзкі дзеяч сп. Марк Бабік. Урачыстасьць закончылася малітваю, якую сказаў а. Васіль, і супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.



*Беларуская моладзь выступае*

Сп. Васіль Русак прычытаў прыгожае пасланьне ад першаіерарха БАПЦ Архіепіскапа Мікалая пра «нацыянальны Вялікдзень» Беларусі.

З прывітальным словам выступіў старшыня БАЗА сп. Антон Шукелайць, падкрэсьліўшы поступ беларускага руху да адраджэньня дзяржаўнасьці. Сп. Шукелайць прачытаў таксама прывітаньне ад Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча ды заклікаў слухачоў падтрымаць фінансава выдавецкі фонд газэты «Беларус».

У прывітальным слове ад АБАМ др. Ю. Кіпель гаварыў пра рост удзелу беларуска-амэрыканскай моладзі, у тым ліку й беларускай моладзі зь Беласточчыны, у адзначаньні сакавіковых угодкаў. З пачуцьцём задаваленьня прамоўца, паказаўшы на калыску ў залі, у якой спаў спакойна ягоны нованароджаны сын Алесь, адзначыў удзел у сьвяткаваньні прадстаўніка чацьвертага пакаленьня Кіпеляў, які, сказаў малады бацька, будзе гэткім-жа добрым беларускім патрыётам, як і ягоны дзед Вітаўт і прадзед Яўхім.

Праклямацыю губэрнатарам Нью-Джэрзы Дня беларускае незалежнасьці прачытала сп-чна Алеся Кіпель. Павал Рамана прачытаў праклямацыю мэра гор. Нью-Ёрку, Валік Сельвясюк — прывітаньне ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, а Пётра Рыжы — ад Сусьветнага Патрыярхату і Ўнівэрсытэту Народаў Амэрыкі.

Мікалай Бахар гаварыў пра леташняе падарожжа ў складзе ансамблю «Васілёк» па Беларусі, а таксама пра

## ЛЁНДАН, АНГЛІЯ

Сьвяткаваньне 73-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка, арганізаванае галоўнай управай Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ), адбылося ў суботу 23-га сакавіка ў залі Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Сп. Янка Міхалюк, старшыня ЗБВБ, прывітаў прысутных, сярод якіх была паважная група гасьцей зь Беларусі (мастакі, выкладчыкі вышэйшых навучальных установаў і студэнты), ды зачытаў надасланыя прывітаньні.

Сп. А. Здanковіч выступіў з аглядам сучаснага палажэньня ў Беларусі, дзе народ змагаецца за незалежны быт, у так цяжкіх і вельмі складаных умовах.

Удзельнікаў сьвяткаваньня вітаў сп. С. Шупа зь Менску, прадстаўнік Беларускага Народнага Фронту. «Можна сказаць з упэўненасьцю, — зазначыў прамоўца, — што ўся вашая цяжкая праца, усё вашае змаганьне, вытрывалась не пайшлі надарма, бо нашыя сьветлыя нацыянальныя ідэалы, нашы старажытныя сымбалі — гэрб, сьцяг, гімн — нарэшце вярнуліся на Бацькаўшчыну. І як-жа сымбалічным пару дзён назад быў выпадак у нашай Бібліятэцы, калі прыехалі зь Менску гімназісты, вучні менскай гімназіі, і, зайшоўшы ў Бібліятэку ды пабачыўшы там бел-чырвона-белы сьцяг, маладыя хлапцы, якім было па 14-15 гадоў, раптам засьвяціліся ў сваіх абліччах і ўсклікнулі: гляздзеце, тут наш сьцяг!»

Наступным прамоўцам была сп-ня Людміла Пецiна, старшыня Камітэту культурнага й духоўнага адраджэньня, сябра БНФ і таварыства «Бацькаўшчына», прадстаўніца Лігі жанчын Беларусі. Шаноўная госьця падзялілася сваймі прыемнымі ўражаньнямі ад такой сустрэчы, «Я адчуваю тут сярод вас, як дома, а нават лепей, чым дома. На Бацькаўшчыне няма ў нас сваёй царквы Беларускай, а тут, якраз перад Вялікаднем, у пост, маем мы магчымасьць на роднай мове маліцца. Для мяне гэта вялікае шчасьце».

Сп-ня Пецiна расказала пра беларускае турыстычнае бюро, якое яна цяпер арганізуе (гл. «Б-с» № 378) ды выказала спадзяваньне на шырэйшае ўзьдзеяньне гэтага бюро на амэрыканскім кантынэнце і брытанскім абтоку, там дзе знаходзяцца Беларусы. Выказала шчырыя запросіны прысутным наведваць Бацькаўшчыну.

Старшыня ЗБВБ папрасіў выступіць прафэсара Гомельскага ўнівэрсытэту імя Ф. Скарыны Д. Анічэнку, які наведаў беларускую грамаду ў Лёндане ўжо другі раз, працуючы над падручнікам беларускай мовы. Сп. Анічэнка гаварыў пра сваё нялёгкае жыцьцё, выказаў радасьць, што Беларусы на чужыне «захавалі, зьберaглі нашу родную мову, нашу духоўную вартасьць».

На просьбу старшыні акадэміі выступіў таксама рэктар Гомельскага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту імя Ф. Скарыны сп. Л. Шамяткоў. Прэлегент зазначыў, што яму прыемна выступаць у беларускім асяродку. Ён засяродзіўся на сваёй прафэсіі — матэматыцы, зазначыўшы, што аддаўна ўтрымлівае кантакт з ангельскімі вучонымі, удзельнічаў у міжнароднай канфэрэнцыі, якая тут у Англіі адбывалася. Гаварыў ён таксама пра забруджаньнасьць радыяцыяй гомельскіх зямель. Закончыў сваю прамову вершам Якуба Коласа — «Мой родны кут, як ты мне мілы...»

Выступала таксама сп-чна Вера Рыч, якая толькі што вярнулася з падарожжа ў Савецкі Саюз. Была на Ўкраіне, у РСФСР і ў Беларусі. Шмат чаго яна расказала аб рэфэрэндуме 17-га сакавіка. Быўшы ў Менску яна назірала, як праходзіла галасаваньне, бачыла малую колькасьць галасуючых, гаварыла зь людзьмі. На ейную думку, афіцыяльна падзеныя вынікі галасаваньня — 83 працэнты за захаваньне Саюзу — падлягаюць вялікаму сумліву.

Заключным прамоўцам быў старшыня Ангела-Беларускага Таварыства праф. Дж. Дынглі. Ён гаварыў па-беларуску і гаварыў «пра тое, што мы сёньня робім». Асноваю думкі прафэсара была Ідэя, Бацькаўшчыны, якую нашы маладыя Беларусы Сяргей (Шупа), Уладзік (Селядцоў) ды іншыя павінны ў будучыні ажыцьцявіць. Ідэя гэтая закладзеная ў падставу ўсяго беларускага. Бо што гэта такое — паняцьце беларускасьці? Яно ня існуе бяз гэтай ідэі дзяржавы, дзяржаўнасьці, сувэрэнітэту, Бо яны, гэтыя паняцьці, ідуць разам. Ня можа быць народу без паняцьця зямлі, на якой народ жыве. І так, кожны народ мае права жыць сваім жыцьцём — у супольнасьці, зразумела, з прадстаўнікамі іншых народаў, якія жывуць побач. Але мы павінны ўсе падкрэсьліваць, што большасьць таксама мае свае правы, ня толькі меншасьці. Калі большасьць гаворыць на сваёй мове, дык няхай гэтыя мова будзе дзяржаўная. Дзе тут праблема? Па-мойму, тут праблемы няма. Так што вось ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі і стаіць сёньня перад намі як найважнейшая для ўжыцьцёўленьня.

Падзякаваўшы ўсім прамоўцам, сп. Я. Міхалюк зьвярнуўся да прысутных з заклікам аб грашовых ахвярах на Фонд БНР, дэтальна паясьняючы, як і на што грошы данага фону выдаткуюцца.

З просьбай аб грашовай дапамозе Беларускаму Народнаму Фронту зьвярнуўся сп. С. Шупа. Ён сказаў, што яны змушаны прасіць падтрымкі на дзейнасьць БНФ, бо арганізацыя гэтая не зарэгістраваная, яна ня мае сродкаў на свой друк. У новых эканамічных умовах, сказаў сп. Шупа, нашыя афіцыйныя ўлады маюць у сваіх руках усе эканамічныя рычагі.

Праф. Дж. Дыглі ў падтрыманьне Фонду БНР падкрэсьліў важнасьць гэтага фонду, пра што найлепш сьветчыць фінансаваная зь яго кніжка Byelorussian Statehood — найлепшае выданьне гісторыі Беларусі XX-га веку.

Сп. Міхалюк, запрашаючы ўсіх на пачастунак, выказаў падзяку сп-ням інж. Ірыне Бондар і др. Ірыне Гурло, якія старанна папрацавалі над рыхтаваньнем пачастунку.

Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну ўрачыстасьць закончылася.

**А. Здanковіч**

## АДЭЛЯЙДА, ПАЎДЗ. АЎСТРАЛІЯ

Сакавіковае сьвяткаваньне было наладжанае супольна Беларускім Аб'еднаньнем і парафіяй Сьв. ап. Пятра й Паўла ў нядзелю 24 сакавіка. Пасьля Літургіі, якую адправіў а. Бурнос і ў часе якое вельмі добра сьпяваў хор пад кірўніцтвам Уладзімера Калесьнiковіча, быў адслужаны малебен за Беларусь і ейны народ. Стаяла сьцяжная варта (М. Калесьніковіч і М. Кандрусік) зь беларускім і аўстралійскім сьцягамі.

У прыцаркоўнай залі адбыўся абед. Харысты ўсе перапрануліся ў нацыянальную вопратку. Па адсьпяваньні беларускага нацыянальнага гімну старшыня сп. М. Калесьніковіч адкрыў сьвяточную ўрачыстасьць, прачытаў атрыманыя прывітаньні ад БНР, БЦР, Фэдэральнай Рады ўсяе Аўстраліі, а таксама ад дзяўчыны зь Віцебску, якая прыслала сакратару Янку Аршанскаму віншавальную катрачку БНР зь бел-чырвона-белым сьцягам.

Старшыня прачытаў цікавы рэфэрат у беларускай і ангельскай мовах. Памаліўшыся, спажывалі смачную ежу, падрыхтаваную нашымі жанчынамі.

Мастацкая частка складалася зь песьняў у выкананьні хору ды сям'і Кандрусікаў: бацькі, маці й дачкі Лары. На заканчэньне М. Кандрусік і Васіль Яновіч адыгралі камічную сцэнку «Прымакі», на якую аўдыторыя рэагавала шчырым сьмехам і воплескамі.

*(Працяг на 10-й б.)*

**Натальля Арсеньнева**

## ЧАРНОБЫЛЬ

*Весьні ранак…*
*Ужо на парозе*
*я няўзнак прыпыняю хаду:*
*надта-ж хораша зноўку бярозы*
*карагоды на ўзгорках вядуць!*
*Іх імклівыя рукі на сіні*
*далячынь ткуць празрысты вузор.*
*Курапаты,*
*Чарнобыль,*
*Катыні*
*ім ня засьцяць ні вёснаў, ні зор.*
*Мне-ж…*
*скрозь мроіцца іншае раньне:*
*хлопчык з пужкаю…*
*статак… раса…*
*Ўпяршыню ў поле выгнаў ён*
*сяньня…*
*Красавік…*
*Люба ў сонца гайсаць!*
*Сонца-ж скрозь!*
*Уваччу, у лазовым*
*жоўтым пухам прыбраным гальлі,*
*і у шчаснасьці той, без назову,*
*ад якое аж сэрца баліць!*
*І няўпрыцям нікому з худобы*
*чалавечай —*
*ня сонца, а сьцень,*
*чорны сьцень… найчарнейшы…*
*Чарнобыль…*
*Ужо крые, накрыў іхны дзень,*
*што з худой пастушковае жменькі*
*хутка выпадзе пужка,*
*што ён,*
*як і безьлічы меншых,*
*маленькіх*
*моўчкі прыйме пакутлівы скон,*
*што узноў над маёй Беларусяй*
*прарасьце, забуяе бяда,*
*што…*
*ды лепей вазьму памалюся,*
*да людзкога*
*і свой боль дадам.*
*Божа! Божа!*
*Адзіны ў сусьвеце,*
*што ўсё знае, ўсё можа,*
*зрабі-ж,*
*каб за нас не пакутвалі дзеці,*
*не яны каб,*
*а мы несьлі крыж!*

**Ад Рэдакцыі:** У лісьце да нас паэтка, між іншага, напісала: «Чаму я ўпляла ў верш хлопчыка, гэта крыху дзіўна. Справа ў тым, што якраз калі ў Чарнобылі здарылася бяда, мне прысьніўся дзіўнаваты сон: сьнілася сенажаць, мокрая, але ўжо зялёная, і босы хлопчык, пастушок, які адганяў пужкай худую чорную кароўку з адным адламаным рогам. Я, у сьне, хацела крыкнуць каб ён кароўку ня біў, але тут зрабілася цёмна й я прачнулася. Наранньні я расказала сон маёй унучцы, і мы дзівіліся, якія глупствы могуць прысьніцца чалавеку, — прычым тут кароўка, пастушок? Але пасьля, калі ўжо пра Чарнобыль пачалі пісаць дзень па дні ўсе газэты, я доўга не забывалася пра майго 'пастушка' й чорную кароўку, таму і ўпляла гэта ў верш».

### *ФРАНЦУЗСКІ ЧАСАПІС ПРА ЧАРНОБЫЛЬ*

Часапіс «Ля ві клер» (студзень-люты 1991) зьмясьціў вялікі матар'ял пад заг. «Беларусь: бунт мэтастазаў». Артыкул ілюстраваны, у ім дадзеныя карта Беларусі, факты пра Рэспубліку, асноўная статыстыка радыяцыі й захворваньняў, называюцца прозьвішчы а. А. Надсона, А. Адамовіча, І. Грушавое, Л. Тарасенкі, Ул. Ліпскага, З. Пазьняка. Намесьнік старшыні Беларускага экалягічнага саюзу Лявон Тарасенка сказаў: «Мы дасюль яшчэ ня маем поўнага ўяўленьня аб тым, што дзеецца. У Заходняй Нямеччыне адбываюцца сэмінары аб уплыве Чарнобыля на цяжарных жанчын. У Заходняй Нямеччыне! А мы тут, у Менску, нічога падобнага ня маем».

### БАЗА ВІТАЕ ЗЬЕЗД БНФ

Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня выслала гэткае прывітаньне ўдзельнікам 2-га зьезду БНФ:

Дарагія Суродзічы! Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне вітае Вас, удзельнікаў другога зьезду Беларускага Народнага Фронту, у гэты дзень Вашае працы на карысьць адбудовы Беларусі і ў дзень 73-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларусы Амэрыкі высока цэняць Вашу самаахвярную адраджэнскую працу і ейныя плённыя вынікі.

Няхай Вашыя намаганьні, скіраваныя на аднаўленьне сувэрэннай дзяржавы Беларускага Народу, задзіночаць усе нашыя сілы ў супольным змаганьні за незалежнасьць і дэмакратыю.

Толькі маючы незалежнасьць, Беларускі Народ здолее разьвязаць эканамічныя, палітычныя і культурныя праблемы на карысьць Беларускае нацыі і ўсіх меншыняў Беларусі.

Жыве Беларусь!

### КАНГРЭСМЭН Ф. АНУНЦЫЁ ПРА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ

Даўны прыяцель Беларусаў, кангрэсмэн Фрэнк Анунцыё, дэмакрат з Чакага, выступіў у Палаце Прадстаўнікоў амэрыканскага Кангрэсу з прамовой аб 73-х угодках абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і аб ушанаваньні гэтае даты Беларускім Каардынацыйным Камітэтам Чыкага. У сваёй прымове сп. Анунцыё адзначыў самаахвярную працу на грамадзкай ніве сяброў БКК: спні Веры Рамук, сп. Міхася Махнача, сп. Лявона Сідарэвіча і др. Вітаўта Рамука.

Да свае прамовы, якая зьмешчаная ў «Запісах Кангрэсу» (Congressional Record, pp. H1957-1958), сп. Анунцыё далучыў атрыманую ад сп-ні Рамук рэзалюцыю БКК, у якой гаворыцца пра сёлетнія сакавіковыя сьвяткаваньні, пра беларускую выставку ў Чыкага, 100-годзьдзе ад нараджэньня Максіма Багдановіча, а таксама аб тым, што назоў Беларусі па-ангельскую трэба пісаць: Bielarus, Bielarusian, а не Byelorussia, Byelorussian.

Кангрэсмэн Ф. Анунцыё ў сваім выступленьні ў Кангрэсе паінфармаваў таксама аб прыбыцьці ў Злучаныя Штаты беларускіх парлямэнтарыяў, Зянона Пазьняка, Уладзімера Заблоцкага і Леаніда Баршчэўскага, прадстаўнікоў дэмакратычнае апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі.

### *ЗША ПАВІННЫ ПАМАГАЦЬ САВЕЦКІМ РЭСПУБЛІКАМ*

Уплывовы амэрыканскі месячнік «Ўорлд Монітар» (лістапад 1990) зьмясьціў артыкул Зьбігнева Бжэзінскага. «Амэрыканская палітыка ў дачыненьні да Савецкага Саюзу, — піша Бжэзінскі, — мусіць улічваць фундамэнтальнай важнасьці факт: Савецкі Саюз перастае існаваць».

Асабліва важным мамэнтам Бжэзінскі лічыць рост нацыянальнай сьведамасьці ў, здавалася-б, зрусыфікаваных славянскіх рэспубліках Беларусі і Украіны. Аўтар зварачае ўвагу на дэкларацыі гэтых рэспублікаў аб дзяржаўным сувэрэнітэце, іхны намер стварыць свае ўзброеныя сілы і адрачэньне ад ядзернай зброі.

Такім чынам, піша Бжэзінскі, мала верагоднасьці, што ўжыцьцёвіцца салжаніцынская формула: стварэньне вялікае славянскае дзяржавы, якая аб'ядна Расею, Украіну й Беларусь.

## МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ…



*На 73-я ўгодкі Кастрычніцкага перавароту мянчане нагадваюць бел-чырвона-белымі сьцягамі, за якую ідэю змагаліся Беларусы ў 1917 годзе.*



*Штандар наш бел-чырвона-белы пакрыў сабой народны рух…*

## ЛІДЭРЫ БНФ У ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ АМЭРЫКІ




*Сустрэча 4-га красавіка на аэрапорце імя Кенэды ў Нью-Ёрку: народных дэпутатаў Беларусі, Зянона Пазьняка, Леаніда Баршчэўскага і Уладзімера Заблоцкага (справа чацьверты, шосты й сёмы) сустракае дэлегацыя амэрыканскіх Беларусаў Нью-Ерку й Нью-Джэрзы. Фота А. Сільвановіча.*




*Удзельнікі банкету-сустрэчы зь беларуска-амэрыканскім грамадзтвам у Саўт-Рывэры 13-га красавіка. Фота Юркі Сасноўскага.*

# ЛІДЭРЫ БНФ У ЗША І КАНАДЗЕ

Зянон Пазьняк, лідэр апазыцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце БССР, і два калегі-дэпутаты, Уладзімер Заблоцкі, ягоны заступнік, і Лявон Баршчэўскі, каардынатар апазыцыі, наведалі Злучаныя Штаты Амэрыкі й Канаду, дзе яны прабылі ад 4 красавіка па 3 траўня. Мэтай іхнага візыту было сустрэцца з прадстаўнікамі амэрыканскага і канадзкага палітычнага, дзелавога й акадэмічнага сьвету, паінфармаваць іх пра палажэньне на Беларусі ды самым паінфармавацца пра шанцы беларускай дэмакратыі на падтрымку і асабліва пра магчымасьці ратаваньня жыхароў чарнобыльскай зоны. Прыезд дэпутатаў стаўся таксама добрай нагодай ім для бліжэйшага азнаямленьня зь беларускай эміграцыяй у ЗША і Канадзе. Дэпутаты ад'ехалі з перакананьнем, што візыт быў своечасовы, удалы й карысны як для іх самых, гэтак і для тых, зь якім яны сустракаліся.

Ніжэй падаецца асноўная храналёгія іхнага побыту ў ЗША.

**4 красавіка.** Прылёт зь Ленінграду. На аэрапорце ў Нью-Ёрку дэпутатаў сустрэлі прадстаўнікі беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў.

**5.IV.** Інтэрв'ю сп. З. Пазьняка ў радыё «Свабода» асобна беларускай, расейскай і ўкраінскай праграмам; інтэрв'ю сп. Л. Баршчэўскага польскай праграме радыё «Вольная Эўропа».

Сустрэча зь беларускім грамадзтвам у Фундацыі П. Крэчэўскага.

**6.IV.** Наведаньне беларускіх цэркваў (з нагоды вялікоднае ўсяночнае багаслужбы) у Гайленд-Парку, Саўт-Рывэры й Рычманд-Гіле.

**7.IV.** Наведаньне Мэтрапалітэнскага музэю мастацтва ў Нью-Ёрку. Адведзіны сп. Антона Адамовіча ў доме для састарэлых. Вечар-сустрэча ў сп-тва Ф. і В. Бартулёў.

**8. IV.** Сустрэча ў Прынстане з кангрэсмэнам-рэспубліканцам Рычардам Зымэрам. У складзе дэлегацыі разам з дэпутатамі: Юрка Азарка, Янка Азарка, Васіль Русак, Янка Запруднік. Інтэрв'ю дэпутатаў прынстанскай газэце і радыястанцыі. Вячэра ў доме старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Р. Завістовіча.

**9.IV.** У Вашынгтоне сустрэчы: з кангрэсмэнам-дэмакратам Бэрнардам Дуаерам, з кангрэсмэнам-рэспубліканцам Дэйнам Рорабакерам, з прадстаўнікамі сэнацкай камісіі замежных справаў. У складзе дэлегацыі — таксама сп. Р. Завістовіч.

Гутарка ў цэнтры канфэдэрацыі амэрыканскіх прафсаюзаў (АКП/КПА).

**10. IV.** У Нью-Ёрку ў Гарыманаўскім Інстытуце паглыбленага вывучэньня СССР Калюмбійскага Ўнівэрсытэту сэмінар на тэму вынікаў Чарнобыля ў Беларусі.

**11.IV.** У Дзяржаўным Дэпартаманьце ў Вашынгтоне даклад на тэму палажэньня ў Беларусі. Сустрэча з кангрэсмэнкай-рэспубліканкай Гэленай Бэнтлі й выступленьне дэпутатаў перад кангрэсавай камісіяй правоў чалавека. У складзе дэлегацыі — таксама Васіль Мельяновіч.

Вячэра ў клюбе «Космас» з прадстаўніком сэнацкай камісіі замежных спраў др. Кліфардам Кіраковам і групай спэцыялістаў.

**12.IV.** Сьнеданьне з групай украінскіх народных дэпутатаў, што былі ў тым самым часе ў Вашынгтоне. Інтэрв'ю ў «Голасе Амэрыкі». Прэсканфэрэнцыя ў Гэльсынкскім Камітэце. Інтэрв'ю З. Пазьняка газэце «Вашынгтон Пост». Абед з дакладам З. Пазьняка ў фундацыі «Гэрытэдж».

Сустрэча з дырэктарам Нацыянальнай Фундацыі для Падтрыманьня Дэмакратыі сп. Карлам Гершманам. Сустрэча з дырэктарам адзьдзелу СССР Дзяржаўнага Дэпартаманту сп. Аляксандрам Вяржбовам і ягонымі памочнікамі.

**13.IV.** Наведаньне Місіі БССР пры ААН.

Банкет у Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры ў Саўт-Рывэры ў гонар дэпутатаў.

**14.IV.** Адлёт у Таронта і Атаву на двутыднёвы побыт і дзелавыя сустрэчы з прадстаўнікамі антарыйскага правінцыйнага й фэдэральнага ўрадаў, а таксама акадэмічнага сьвету й беларускага грамадзтва Канады (апісаньне канадзкага візыту, таксама ўдалага й плённага, будзе дадзена асобна).

**26-28.IV.** Падарожжа аўтамабілем з Таронта ў Кліўленд. Азнаямленьне з «Полацкам», Кліўлендам; банкет у гонар гасьцей.

**29.IV.** Прылёт у Нью-Ёрк. Гутарка з дастойным Полам Морам пра палажэньне з чарнобыльскай радыяцыяй і справу дапамогі жыхаром зоны. Наведаньне выстаўкі ў УНІСЭФ пры ААН, прысьвечанай 5-м угодкам Чарнобыля.

**30.IV.** Гутарка з праф. Томасам Бэрдам, кансультантам Рады Каталіцкіх Біскупаў ЗША, на тэму рэлігійна-нацыянальнага палажэньня ў Беларусі.

**1.V.** Азнаямленьне з горадам Нью-Ёркам.

**2.V.** Зборы ў зваротную дарогу.

**3.V.** Адлёт зь Нью-Ёрку ў Менск.

## БРЫТАНСКІ ДЫПЛЯМАТ У БЕЛАСТОКУ

Як паведамляе беластоцкая газэта «Ніва», 1 лютага сёлета адбылася ў Беластоку нясштодзённая сустрэча. Госьцем беларускага актыву быў другі сакратар брытанскага пасольства ў Польшчы Лорэнс Бройд. Як аказалася, сп. Бройд, карэнны Ангелец, вывучаў нейкі час беларускую мову на ўнівэрсытэце ў Англіі, ён знаёмы з праблемамі беларускай меншасьці ў Польшчы.

У Беласток сп. Бройд прыехаў усьлед за адгалоскамі кампаніі эканамічнага абуджэньня гэтага рэгіёну, якую праводзіць Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне (БДА). Урад Вялікабрытаніі мае шырокую праграму эканамічнай дапамогі для прыватнай індустрыі ў Польшчы. БДА некалькі разоў ужо выступала з заклікамі, каб у працэсе пабудовы рынчнай эканомікі ў Польшчы Беласточчына не засталася адсталым абшарам. Сп. Бройд вельмі цікавіўся эканамічнымі праблемамі Беласточчыны і расказаў пра магчасьці брытанскай дапамогі. Аказалася аднак, што ня вельмі ёсьць каму дапамагаць.

У сустрэчы ўдзельнічала некалькі журналістаў, гісторыкаў пісьменьнік і мастак. Было таксама двух войтаў зь беларускіх гмінаў і госьць з ЗША Міраслаў Целушэцкі, які таксама цікавіўся эканамічнымі пытаньнямі.

Слабасьць Беларусаў у польскіх умовах выяўляецца найбольш у эканамічнай дзялянцы. Прыватныя фірмы ў беларускіх руках былі-б асновай для далейшага разьвіцьця беларускай меншасьці ва ўсіх галінах. Беларусы зь Беласточчыны ў сваіх разьліках часта робяць спадзяваньні на дапамогу з боку эміграцыі. Вядома, што магчымасьці эміграцыі абмежаваныя, але ў маштабе Беласточчына нават невялікі капітал можа аказацца важным фактарам для эканамічнага ўзбуджэньня. Таму, калі беластоцкія Беларусы зьвернуцца па дапамогу, нельга аднесьціся да іх прановаў абыякава. Нельга змарнаваць гэты шанц.

**Валік Сельвясюк**



*Беларуская дэлегацыя зь візытам у кангрэсмэна Дэйны Рорабакера (рэспубліканец з Каліфорніі). Справа: Р. Завістовіч, Ул. Заблоцкі, З. Пазьняк, Д. Рорабакер, Л. Баршчэўскі, Я. Запруднік.*



*Сп. Зянон Пазьняк (справа) вітаецца з кангрэсмэнам Рычардам Зымэрам у Прынстане. Зьлева сп. Юрка Азарка, арганізатар сустрэчы.*



*Сэмінар у Калюмбійскім Унівэрсытэце на тэму палітычнага й культурнага адраджэньня Беларусі ды вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Дакладчыкамі былі тры дэпутаты Беларусі, З. Пазьняк, Ул. Заблоцкі і Л. Баршчэўскі, слухачамі — супрацоўнікі Гарыманаўскага Інстытуту й спэцыялісты-саветолягі. Фота Янкі Запрудніка.*



## ЛЕКЦЫЯ ПРАФ. В. ГРЫЦКЕВІЧА

У Ратгерскім Унівэрсытэце ў гор. Нью-Брансьвіку, Н.-Дж., 15 сакавіка др. Валянтын Грыцкевіч, прафэсар ленінградскага Інстытуту Культуры, плённы беларускі гісторык і грамадзкі дзеяч, прачытаў лекцыю на тэму «Дасьледніцкая праца й нацыянальнае адраджэньне ў БССР». Спонсарамі лекцыі былі: Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ды Згуртаваньне Выпускнікоў-Беларусаў Ратгерскага Ўнівэрсытэту. Вяла вечар сп-ня Галіна Русак, дырэктар мастацкае бібліятэкі Ратгерскага Ў-ту.

# ПРАГРАМНАЯ ЗАЯВА

*(Заканчэньне зь 5-й)*

Беларускае Народнае Рэспублікі.

Існаваньне БНР было спынена збройнаю сілай. Аднак бальшавікі вымушаны былі дазволіць стварэньне ў 1919 г. БССР, якая, незалежна ад іхняга жаданьня, аказалася пераемніцаю дзяржаўнае традыцыі Беларусі. Падпісаньне Саюзнага дагавору 1922 г., як і іншыя заканадаўчыя акты БССР, што адмаўляюць альбо ігнаруюць сувэрэнітэт Беларусі, ня мае юрыдычнае сілы, бо прынята ва ўмовах таталітарнага рэжыму, які кіруецца з-за межаў Рэспублікі, і савецкай акупацыі. Беларусь мае гістарычныя, юрыдычныя й маральныя падставы аднавіцца як незалежная дзяржава — Рэспубліка Беларусь.

Будучая незалежная Беларусь — гэта дзяржава, якая праз стагодзьдзі каляніяльнага заняпаду вернецца ў сям'ю эўрапейскіх народаў, як роўная сярод роўных, і адновіць свае маральныя, культурныя, сацыяльныя каштоўнасьці. Валодаць, карыстацца, распараджацца нацыянальным багацьцем Рэспублікі Беларусі мае неабмежаванае права толькі беларускі народ. Канстытуцыя, заканадаўства ды органы ўлады незалежнае Беларусі будуць мець вяршэнства на ўсёй яе тэрыторыі. На Беларусі ня будзе ўзброеных сілаў іншых краінаў. Незалежная Беларусь стане бязьядзернаю дзяржаваю.

Утварэньне незалежнае Беларусі побач з вольнымі суседнімі дзяржавамі павінна спрыяць, міру й спакою ў Балтыйска-чарнаморскім рэгіёне. Дэмілітарызацыя ці значнае скарачэньне ўзбраеньняў на гэтым абшары дазволіць нашай Рэспубліцы абыходзіцца невялікімі прафэсійнымі сіламі самаабароны.

Незалежная Беларусь ратыфікуе ўсе міжнародныя пагадненьні, скіраваныя на ўсталяваньне мірных і добрасуседзкіх дачыненьняў паміж народамі, на абарону правоў чалавека. Беларуская дзяржава будзе заключаць палітычныя, эканамічныя ды іншыя пагадненьні, зыходзячы зь інтарэсаў народу Беларусі.

Незалежная дэмакратычная Беларусь здолее стварыць сыстэму дзейснае сацыяльнае абароны для тых, хто з аб'ектыўных прычынаў ня ў стане пракарміць сям'ю. Беларуская Рэспубліка выкарыстае інтэлектуальныя багацьці свайго народу, каб стварыць сучасную эфэктыўную сыстэму адукацыі, мэдыцыны, непасрэдна далучыцца да сусьветнага навукова-тэхнічнага поступу.

Незалежная дэмакратычная Беларусь будзе дбаць пра сям'ю як апірышча грамадзтва й нацыі, пра захаваньне маральна-этычных традыцыяў народу, пра фізычнае здароўе сваіх грамадзянаў.

Незалежная дэмакратычная Беларусь будзе гарантам разьвіцьця й росквіту беларускае мовы й культуры, якія могуць паўнацэнна існаваць дзеля агульначалавечага дабра толькі на сваёй этнічнай тэрыторыі. Незалежная Беларуская дзяржава будзе рупіцца пра Беларусаў за яе межамі, дапамагаючы ім захаваць нацыянальную самасьвядомасьць, адметную культуру й годны дабрабыт. Дэмакратычная праўная ўлада Рэспублікі забясьпечыць культурна-нацыянальныя правы і ўмовы іх рэалізацыі ўсім нацыянальным супольнасьцям на Беларусі.

Адраджэньне незалежнасьці, дэмакратыі, яе падставы — прыватнай уласнасьці, вяртаньне мовы, традыцыяў і веры продкаў, нацыянальная кансалідацыя — галоўныя ўмовы фізычнага й духоўнага выздараўленьня народу. Вольны народ, сам распараджаючыся плёнам свае працы, маючы міжнародную падтрымку, сам знойдзе паратунак ад наступстваў Чарнобыля, наладзіць гаспадарку, адродзіць культуру — сам выратуе сябе.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## 9-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Адэляйдзе 6-9 студзеня 1991 г.

Мы, удзельнікі 9-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, зьехаўшыся з усёй Аўстраліі, заслухаўшы прывітаньні ад грамадзкіх і духоўных арганізацыяў, пастанавілі:

1. Рабіць захады, каб аўстралійскія дзяржаўныя і прыватныя сэктары аказалі гуманітарную дапамогу пацярпелым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі. Імкнуцца адраджаць нацыянальную культуру, хрысьціянскую мараль і агульначалавечыя вартасьці.
2. Падтрымліваць і далей дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», скіраваную на ратаваньне Беларускае Нацыі.
3. Зьвярнуцца з просьбай ад імя беларускіх арганізацыяў Аўстраліі, каб былі прынятыя квоты імігрантаў зь ліку жыхароў найбольш заражаных мясцовасьцяў чарнобыльскай зоны Беларусі.
4. Спрыяць пашырэньню дыпляматычных сувязяў Аўстраліі зь Беларускай Рэспублікай, Вярхоўны Савет якое абвесьціў 27 ліпеня 1990 году Беларусь сувэрэннай дзяржавай.
5. Мы падтрымліваем ініцыятыву аргкамітэту «Бацькаўшчына» ў Менску дзеля аб'яднаньня ўсяго Беларускага Народу, падтрымліваем справу палітычнага і эканамічнага сувэрэнітэту Беларусі.
6. Мы вітаем намаганьні беларускага грамадзтва, скіраваныя на рэалізацыю Закону аб дзяржаўнасьці беларускае мовы, які ўвайшоў у сілу 1 верасьня 1990 году.
7. Мы выказваем непакой з прычыны нарастаньня антыбеларускай акцыі на Беласточчыне, якая выяўляецца ў хлусьлівай прэсавай кампаніі ды ў паленьні цэркваў і нішчэньні помнікаў беларускай культуры.

Пацьвярджаючы ўсё вышэй сказанае, удзельнікі 9-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, разам зь Беларусамі ўва ўсім вольным сьвеце, заяўляюць, што галоўная наша мэта — дасягненьне СВАБОДЫ Й НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ.
9 студзеня 1991 г.
Адэляйда, Паўдз. Аўстралія.

Старшыня Прэзыдыюму
9-га Зьезду Фэдэральнай Рады
Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі
**Ул. Сідлярэвіч**

Сакратар Прэзыдыюму
9-га Зьезду Фэдэральнай Рады
Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі
**Паўла Гуз**



# *ПРЫСЬВЕЧАНА БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ*

Як падалі «Навіны Беларускай Акадэміі» (1.III.91), «Беларускай эміграцыі было прысьвечана пашыранае паседжаньне адзьдзелу гісторыі замежных сувязяў Беларусі Інстытуту гісторыі АН БССР. На ім разглядаліся пытаньні мэтадалёгіі і мэтодыкі вывучэньня гэтай новай надзвычай актуальнай плянавай тэмы інстытуту, дасьледаваньні па якой адзьдзел пачынае з гэтага году».

Газэта «Чырвоная зьмена» (28.I-3.II.91) зьмясьціла вялікі матар'ял Алега Латышонка пад заг. «Беларуская эміграцыя». Аўтар піша пра Беларусаў у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі й Аргентыне.

Аўтар, між іншага, зазначае: «Дасягненьні эміграцыі ў гісторыі, паэзіі і музыцы перавышаюць часта дасягненьні беларускай культуры на радзіме. Усё-ж такі далейшае існаваньне беларускасьці ў шырокім сьвеце знаходзіцца ў вялікай небясьпецы. Ніякая эміграцыя ня можа існаваць пакаленьнямі бяз прытоку сьвежай крыві». У сувязі з гэтым А. Латышонак рэкамэндуе: «Каб захавалася пачуцьцё беларускасьці ў нашчадкаў беларускіх эмігрантаў, Беларусь мусіць весьці сваю магчыма самастойную дыпляматычную дзейнасьць у краінах, дзе яны пражываюць. Патрэбны культурны абмен, а не палітычная індактрынацыя, у сягоньняшнім сьвеце мала пасьпяховая».

*У БІНіМе*

# ДАКЛАД ПРАФ. В. ГРЫЦКЕВІЧА

Выкладчык ленінградзкага Інстытуту культуры, адзін зь вядучых музэязнаўцаў Савецкага Саюзу, др. гістарычных навук Валянтын Грыцкевіч быў прыехаўшы на пачатку сакавіка ў Злучаныя Штаты для азнаямленьня з амэрыканскімі праграмамі выкладаньня музэязнаўства ў ВНУ. Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва супольна з управаю ньюёркскага адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага запрасілі праф. Грыцкевіча на спатканьне зь Беларусамі Нью-Ёрку й ваколіцаў. Спатканьне адбылося ў памешканьні Фундацыі Крэчэўскага ў сыботу 2 сакавіка. Сп. Грыцкевіч, старшыня Беларускага культурнага таварыства ў Ленінградзе, чалавек добра абазнаны як са станам беларускай гістарыяграфіі, гэтак і з грамадзкім жыцьцём на Бацькаўшчыне, цікава расказаў прыбылым на вечар суродзічам аб ходзе дэмакратызацыі, беларускай гістарычнай навуцы, дасягненьнях і цяжкасьцях нацыянальнага адраджэньня.

Пасьля дакладу й адказаў на шматлікія пытаньні адбыўся супольны пачастунак.

**Я. З.**

# ЗВАРОТ БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ РЭРЫХАЎ

У гэты складаны і адказны час нашай супольнай чалавечай гісторыі Беларускі фонд Рэрыхаў зьвяртаецца да ўсіх людзей сьвету зь ініцыятывай:

Штодня а 21-й гадзіне па мясцовым часе аб'яднацца сэрцам у бязмоўнай хвілiннай малітве з думкай: «ХАЙ УСЯМУ СЬВЕТУ БУДЗЕ ДОБРА! ХАЙ УСТАЛЮЕЦЦА НА ЗЯМЛІ МІР І СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ!»

Чыстая сумесная мэтанакіраваная думка валодае вялікай пераўтваральнай сілай. Яна, паводле вучэньня Жывой Этыкі, што абвясьціці Рэрыхі, — тая зброя, якая здольная перамагчы ўсе нягоды, яна — той ключ, якім адчыняюцца дзьверы ў будучыню.

Такім чынам, а 21-й гадзіне — Хвіліна Яднаньня.

Тэкст гэтагаЗвароту, распаўсюджаны Беларускім Тэлеграфным Агенцтвам, быў абвешчаны ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі.

Шаноўныя сябры! Просім вас падтрымаць гэтую жыцьцёва важную ініцыятыву. Хай Хвіліна Яднаньня ўмацоўваецца, пашыраецца, уваходзіць у кожны дом і ў кожнае сэрца.

**Праўленьне
Беларускага фонду
Рэрыхаў**

*З жыцьця ў Чыкага*

# САКАВІКОВАЯ ВЫСТАЎКА

Сёлетняя выстаўка, наладжаная Беларускім Каардынацыйным Камітэтам Чыкага ў фае цэнтру імя Дэйлі, пратрывала ад 18 да 29 сакавіка і экспанавалася пад ляйтматывам «Тварцы думкі незалежнасьці Беларусі». Сярод гэтых тварцоў заняў пачэснае месца, у свае сотыя ўгодкі ад нараджэньня, і славуты клясык нашай літаратуры Максім Багдановіч са сваёй «Пагоняй», якой «не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць» у сёньняшнім адраджэнскім руху.

На васьмёх панэлях з двух бакоў былі разьвешаныя партрэты слаўных беларускіх паэтаў, пісьменьнікаў ды дзеячоў: М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Скарыны, К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, Цёткі з кароткімі біяграфічнымі даведкамі пра іх і крылатымі словамі зь іхнае творчасьці. Далей чарадаваліся плякаты з выявамі нацыянальных касьцюмаў і беларускае архітэктуры.

У чатырох зашклёных сталох былі выкладаныя інкруставаныя саломкай шкатулкі, лялькі зь лёну, валікодныя яйкі, кераміка, вышыўка, кніжкі. Прывабліва выглядалі й плякаты з выявай Ф. Скарыны ды іншых дзеячоў. Паводля атрыманых Каардынацыйным Камітэтам лістоў ад наведнікаў, выстаўка выглядала прыгожа ды нагадала некаторым з наведнікаў край іхнага паходжаньня.

Падзяка за выстаўку належыцца сп-ні Веры Рамук, якая расплянавала і рыхтавала яе, а таксама за дапамогу сп-ні Ірэне Пануцэвіч ды сп.сп. Лявону Беленісу і Міхасю Сысою, ды Багдану Паўкэ за тое, што пазычыў партрэты паэтаў і пісьменьнікаў.

**Др. Вітаўт Рамук**

## ПАПРАЎКА ПРА ВІЦЕБСК

Газэта «Чыкага Трыбюн» (29.І) зьмясьціла допіс сп-ні Веры Рамук, сакратара Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага. Сп-ня Рамук зьвярнула ўвагу на памылковае называньне Віцебску «расейскім» местам. Віцебск — места беларускае, напісала сп-ня Рамук, ён — сталіца Віцебскае вобласьці, гэтак як Спрынгфільд — сталіца штату Іліной.

Гэта напамін чытачом «Беларуса»: друкуюць таго, хто піша.

*ПАШЫРАЙЦЕ НЕЗАЛЕЖНІЦКІЯ ПУБЛІКАЦЫІ ЗЬ БЕЛАРУСІ, ДАПАМАГАЙЦЕ НАЦЫЯНАЛЬНАМУ АДРАДЖЭНЬНЮ.*

## УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Заканчэньне зь 9-й б.)*

Наша зямлячка, якая прыехала з мужам у госьці, выступіла зь цёплымі словамі прывітаньня (гл. ніжэй).

Пасьля афіцыйнай часткі, за сталамі пры кілішку, гучэлі сьпевы, вялася вясёлая гутарка. Усе разьяжджаліся на сваіх аўтамабілях у добрым настроі.

Жыве Беларусь!

**У. Акавіты**

## ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

Сёлетняе сьвяткаваньне 73-х угодкаў абвешаньня дзяржаўнасьці БНР (гэта ўжо 40-е з чаргі ў жыцьці нашай калёніі) адбылося 24-га сакавіка ва ўпрыгожанай бел-чырвона-белымі сьцягамі залі Беларускага Народнага Дому. Пачалася ўрачыстасьць адыграньнем нацыянальнага гімну «М7 выйдзем шчыльнымі радамі». Удзельнікаў сьвяткаваньня вітаў старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі сп. Міхась Раецкі малодшы. Р. М. прачытаў атрыманыя прывітаньні: ад Старшыні Рады БНР др. Я. Сажыча, Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, Беларускай сэкцыі радыё Ватыкану, Сьвяткавальнага Камітэту ў Лёс-Анджэлесе, Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі і Беларускага Аб'яднаньня ў Паўдз. Аўстраліі.

Даклады на тэму дня прачыталі М. Раецкі малодшы (па-ангельску) і Р. М. (па-беларуску).

Адбыўся супольны пачастунак, у часе якога вяліся гутаркі аб беларускай мове, школьніцтве ў БССР і чарнобыльскай бядзе. Была праведзеная зборка ахвяраў на "Дар Сакавіка».

**Р. М.**

## БЕЛАСТОК

Сёлета сьвята Незалежнасьці арганізавалі студэнты зь Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў (БАС), дарэчы, ініцыятары гэтых сьвяткаваньняў у Польшчы. У сыботу 23-га сакавіка больш за паўсотні пераважна маладых людзей сабраліся ў адной з заляў філіялу Варшаўскага Ўнівэрсытэту, былога будынку ваяводзкага камітэту польскай кампартыі. На гэта зьвярнуў увагу адзін з запрошаных дакладчыкаў, Сакрат Яновіч, кажучы: «Калі-б гады тры таму, а нат два, сабраліся мы тутака ў гэтым месцы на такую ўрачыстасьць, закончылася-б гэта вялікім скандалам. Вас — паказаў на студэнтаў — выгналі-б з вучэльняў, а мяне і старэйшых завезьлі-б на паўднёвую шашу, гэта значыць, у турму, — жартаваў Сакрат.

Урачыстасьць пачалася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну. Хвілінай цішыні ўшанавалі памяць тых, што стварылі ў 1918 годзе БНР, змагаліся і загінулі за яе.

У сваім дакладзе др. гістарычных навук Яўген Міроновіч гаварыў пра цяжкія абставіны нараджэньня незалежнасьці, ідэя якой сьвеціцца пуцяводнай зоркай вось ужо 73 гады.

Сп. С. Яновіч гаварыў пра беларускую літаратуру таго часу і пра незалежніцкія матывы ў пазьнейшай літаратурнай творчасьці на бацькаўшчыне і ў эміграцыі.

Мастацкую частку праграмы прадставілі дзяўчаткі зь беластоцкага гуртка БАСу супольна зь вядомай сьпявачкай Эляй Бэзюк.

Упрыгожаная нацыянальнымі сьцягамі заля, песьні й вершы стварылі прыўзьняты, незабыўны настрой.

Варта яшчэ зазначыць, што сёлета, як ніколі дагэтуль, пра сьвята Незалежнасьці Беларусі шмат гаварылася ў польскім радыё, але гэта ўжо мая асабістая заслуга. Жыве Беларусь!

**Ю. Ляшчынскі**

## *У ГАРАДОК НА «БАСОВІШЧА»!*

Хіба не перабольшым, калі назавем «Басовішча», гэта значыць фэстываль музыкі Маладой Беларусі, найважнейшай беларускай музычнай імпрэзай. Размах фэстывалю далёка-далёка перавысіў саму ягоную ідэю. Гэта ўжо ня толькі Беласточчына, але ўся прагрэсыўная Маладая Беларусь адзначае сьвята музыкі. Тры дні запар летась у Гарадку мелі мы свой малы беларускі Вудсток. Зоркі беларускай сцэны, барды мітынгаў зь непадцэнзурным словам ды цьвёрды мэталічны рок шырокім рэхам несьліся ў падгарадоцкіх хвайняках, бо акурат на лясной паляне гасьцявала малада беларуская музыка.

Сотні маладых паклоньнікаў року былі на фэстывалі, значна больш глядзела гэта на відэакасэтах, а яшчэ больш слухала на звычайных аўдыёкасэтах або ў Беластоцкім радыё, што перадавала больш сакавітыя вытрымкі гэтага фэстывалю.

Гэта было год таму. А ці сёлета будзе «Басовішча»? Хто раз пасмакаваў наркатычнага шаленства ў Гарадку, і цяпер яго прагне. А хто не — мае нагоду.

Вось кіраўніцтва Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў вырашыла правесьці і сёлета фэстываль музыкі Маладой Беларусі ў Барыку пад Гарадком — тамака. І ня то што паўтарыць — пашырыць на новых бардаў і рок-гурты. Даць шанц другім. Дата сёлетняга «Басовішча» 12-14 ліпеня.

Фэстываль патрабуе значных арганізацыйных і фінансавых сродкаў, ахвярнасьці й дапамогі. Ужо адкрытыя грашовыя рахункі «Басовішча 91»:

у замежнай валюце
Anna Adamik
Państwowy Bank Kredytowy I
Oddział: Białystok
Nr rachunku: 370406-102140-152-1787

у польскіх злотых
X Oddział PKO Warszawa
Plac Powstańców 1
1603-550130-132

І ты можаш унесці сваю цаглінку!

**Арганізацыйны камітэт «Басовішча 91»**

## «ПОЛАЦАК» — НОВЫ ЧАСАПІС

Выйшлі два першыя нумары месячніка «Полацак». Выдаецца часапіс Беларускім культурна-асьветніцкім цэнтрам у Кліўленьдзе, друкуецца пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ. Публікацыя мае характар культурна-гістарычны й літаратурны. У першых двух нумарох зьмясьцілі свае артыкулы, творы й матар'ялы: Іосіф Юхо, Анатоль Белы, Уладзімір Содаль, Міхась Белямук, а. Міхась Страпко, Сьвятлана Белая, Аўген Гучок, Міхась Чаромха, а. Серафім Жалязьняковіч, Леанід Лыч, Эрнэст Ялугін, Хведар Крыванос, Міхась Булахаў, Масей Сяднёў, Павел Мраціновіч, Мікола Шынкевіч, Ірына Кісялёва. Бальшыня аўтараў жыве ў Беларусі.

У склад рэдкалегіі часапісу ўвайшлі: Сьвятлана Белая (рэдактар), Міхась Белямук (сакратар), Янка Салавянюк (мастак), сябры: Сяргей Карніловіч, Іна Каханоўская, Вольга Дубаневіч (МакДэрмат), Лідзія Лазар-Ханенка, Янка Ханенка. Ганаровыя сябры рэдкалегіі: Анатоль Белы і Іосіф Юхо.

Часапіс «Полацак» ілюстраваны, добра афармлены графічна. Цана падпіскі (зь перасылкаю): 6,50 дал. на год. Карэспандэнцыю і падпіску пасылаць на адрас (на прозьвішча С. Белай або М. Белямука):

10915 Lake Rd., Cleveland, OH 44102, U.S.A.
Tel: (216) 651-3451

## У МІЖНАРОДНЫМ ЖУРЫ



Ведамы нашаму чытачу лёнданскі музыколяг Гай Пікарда (гл. ягоныя «Фрагмэнты зь дзёньніка» «На скрынаўскіх сьвяткаваньнях», «Б-с» №№ 375-377) запрошаны ў склад журы 10-га Міжнароднага фэстывалю царкоўнай музыкі, што адбудзецца ў Гайнаўцы ў Польшчы 16-19 траўня сёлета. Сп. Пікарда выдатна кваліфікаваны для такой ролі, і мы будзем спадзявацца, што ён падзеліцца з чытачамі «Беларуса» сваймі назіраньнямі з падарожжа на Беласточчыну і сваймі ўражаньнямі ад фэстывалю.

## УШАНАВАНЬНЕ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

3-га сакавіка ў Беларускім цэнтры ў горадзе Саўт-Рывэры былі адзначаныя 75-я ўгодкі жыцьця і выхад новае кнігі ведамага беларускага паэта Міхася Кавыля. Сабралася ў цэнтры вялікая грамада сяброў юбіляра са штатаў Нью-Джэрзы, Нью-Ёрк, Пэнсыльванія й Канэтыкет. Сп-ня Надзя Кудасава сьпякла да ўрачыстасьці традыцыйны беларускі каравай, упрыгожыла яго васількамі.

Др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, прывітаў паэта, прыгадаўшы істотныя асноўныя жыцьцёвыя і грамадзкія этапы: Бацькаўшчына, Заходняя Нямеччына, Бэльгія, Амэрыка.

Др. Янка Запруднік схарактарызаваў паэтычную творчасьць М. Кавыля, падкрэсьліўшы ягоную шырокагранасьць, песеннасьць ды, як некалі адзначыў крытык Антон Адамовіч, паэтаве значнае наватарства.

Сп-ня Зора Кіпель прысьвяціла даклад толькі аднаму аспэкту творчасьці М. Кавыля — вобразу месяца ў вершах ды прозе пісьменьніка.

Сп. Міхась Сенька гаварыў аб заслугах Міхася Кавыля як грамадзкага дзеяча ды журналіста.

Дэтальны агляд паэзіі М. Кавыля зрабіў у ангельскай мове праф. Том Бэрд, аўтар англамоўнага ўступу да новае кнігі паэта. Праф. Бэрд падкрэсьліў, што Міхась Кавыль — адзін з самых папулярных беларускіх паэтаў на Захадзе, а сьветчаньне гэтаму — дзесяткі Кавылёвых вершаў, пакладзеных кампазытарамі на музыку.

З прывітаньнямі юбіляра выступілі старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелойць, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью-Ёрку сп. Кастусь Мерляк, віцэ-старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту сп. Віталі Цярпіцкі, сп. Міхась Бахар ды прадстаўнік Беларусаў Ленінграду праф. Валянтын Грыцкевіч. Дарэчы, др. Грыцкевіч адзначыў, што з паэзіяй Міхася Кавыля ён азнаёміўся раней і рад, што яму давялося быць прысутным на гэтай урачыстасьці.

Віталі юбіляра таксама паэты Я. Золак, Я. Юхнавец, Др. М. Шчорс ды сп-ва Найдзюкі.

Мастацкую частку, прысьвечаную творчасьці паэта, падрыхтавалі сп-ня Ірэна Цупрык, сп. Пётра Нядзьвецкі, др. Ала Рамана і сп. Іван Альхоўскі.

Зачыняючы юбілейную ўрачыстасьць, Вітаўт Кіпель выказаў падзяку прысутнаму на залі, аднаму зь першых выдаўцоў як твораў М. Кавыля, гэтак і іншых беларускіх пісьменьнікаў у Амэрыцы, сп. Уладзімеру Пелясу ды сьвяткавальнаму камітэту у складзе Валі Камянковай, Лізы Літаровіч і Ірыны Дутко. Агульным сьпевам бадай ці не самае папулярнае беларускае песьні на эміграцыі — «Расьцьвіталі ў жыце васілёчкі» (словы Міхася Кавыля) акадэмія закончылася, а юбіляр яшчэ доўга падпісваў гасьцям свой зборнік «Міжагнёўе».

**В. Зубкоўскі**

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ-РЫВЭРЫ

У Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ў нядзелю 17 сакавіка сёлета адбылася 18-я штагодняя выстаўка, наладжаная Беларускім Мастацкім Таварыствам (старшыня: Ірэна Рагалевіч-Дутко).

Адчыняючы выстаўку, сп-ня Рагалевіч-Дутко прывітала шматлікіх гасьцей, падкрэсьліла цягласьць выставачнае традыцыі, выказала задаваленьне, што наладжваюцца сувязі з мастакамі на Бацькаўшчыне.

Акцэнт у сёлетняй экспазыцыі быў пакладзены на лялькі ў нацыянальных строях, якія прадстаўлялі розныя рэгіёны Беларусі.

У выстаўцы ўзялі ўдзел мастакі і фатографы: Іда Батэрўорт, Ірэна Рагалевіч-Дутко, Мікола Дутко, Тамара Дутко, Анатоль Кляшчук, Надзя Кудасава, Мірак Лучко, Людміла К. М., Таня Місюк, Аліцыя Махнюк, Галіна Русак, Алекс Сільвановіч, Аўген Скаўронскі, Ст. Тамара, Грэйс Трылер, Івонка Сурвіла, Яраслаў Віцкі; умельцы: Юля Андрусышына, Каця Блюм, Галіна Грынкевіч, Ірэна Дутко, Таня Гэтман, Мікола Грэбень, Валя Камінкова, Зора Кіпель, Надзя Кудасава, Ліза Літаровіч, Люда Літаровіч, Люда Махнюк, Марыя Наумчык, Валя Рагалевіч, Ала Рамана, Галіна Русак, Патрыцыя Траскевіч, А. Сямёнава, Марыя Стагановіч, Крыстына Урыўская, Ірэна Вэрдэр, Ніна Зьгірская.

Шмат на выстаўцы было разьбы ў дрэве. Зьвярнуў на сябе ўвагу Алег Махнюк сваёй скульптурай у мэталі.

Зацікаўленьне выстаўкай сёлета было вялікае, што тлумачыцца агульным пажваўленьнем беларускага жыцьця ў сувязі з падзеямі на Бацькаўшчыне.

**Я. Н.**

## ШУКАЕМ ПІСЬМЕНЬНІЦКІХ БІЯГРАФІЯЎ

Рыхтуючы «Дадатак» да шасьцітомнага біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменьнікі», я сутыкнуўся з тым, што ў нас няма біяграфічных зьвестак, а таксама фатаграфій наступных празаікаў, паэтаў і крытыкаў, чыё жыцьцё поўнасьцю або часткова зьвязана з эміграцыяй. Гэта — Р. Казак, Ул. Клішэвіч, Я. Ліманоўскі, С. Юстапчык, Я. Юхнавец, С. Ясень (падаю ў алфавітным парадку). У каго ёсьць такія зьвесткі (а таксама саміх пісьменнікаў) прашу выслаць іх на адрас:

Беларусь 220068
Мінск — 68
вул. Чарвякова, 18 кв. 4.

**Адам Мальдзіс**

 



## BYELORUSSIAN ASSOCIATION IN QUEBEC
## ASSOCIATION DES BIELORUSSIENS DU QUEBEC
## ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КВЭБЭКУ

1973 Romiti St., Chomedey, Laval, PQ H7T 1J7

Dear Fellow Byelorussians:

A year and a half has passed since the beginning of our campaign for a permanent Byelorussian site, and the Byelorussian Association of the Province of Quebec last contact with Byelorussians abroad. In this time, we've experienced numerous important events, accomplishments and disappointments and are determined by pursuing the purchase of a commercial building for church and organizational use in better serving our Byelorussian people.

We wish to emphasize that the nature of our organization is a completely philanthropic one — for it is a place of refuge, celebration, gathering, worship, comfort and support, helping to foster a creative atmosphere for Byelorussians of all ages. We are first and foremost here to serve each and every Byelorussian in any way they so see fit.

For your information, the following are some of our accomplishments and future events:

1 Official papers from Ottawa recognizing the Byelorussian Association of the Province of Quebec as a legal organization have been processed by a notary and have been signed and agreed upon by the Committee Executives.
2 A conference of the Canadian Ethnocultural Council was attended in Ottawa (May 26-28, 1990). This Council recognized Byelorussians across Canada as representative part of population census.
3 Homelands Festival (Ottawa) was given support by committee members and promoted our nationality and culture, held on June 15, 16, and 17, 1990.
4 A letter of appeal for Chernobyl victims was submitted to both leading French and English newspapers in Montreal.
5 Uladyka Mikalay has officially accepted the association as a patronage under the name of Byelorussian Autocephalous Orthodox Church Parish of our Saviour in Montreal. This recognizes the association as a parish as well as an organization.
6 On October 21, 1990 a mass was held in honor of our Patron Saviour "Spasa" at St. Mary's Protector Church (in Montreal) with approximately 87 people in attendance including support from Ukrainians.

Finally, we ask for your support and understanding that the funds are being lent, and investment not only for your future but your children's futures as well. It is compatriotism and understanding that holds people together and is what we are desperately searching for. Just stop to think where the Prime Minister/President would be without the support of his people?

We have laboured long and hard to finally obtain a cohesive organization, as such, our very essence is drawn from the life blood of Byelorussians — people like you and I.

As communism in the Soviet Union has disintegrated and the republics have reasserted and strengthened their own identities, so has the Byelorussian Association in Canada made such strides. And yet to achieve the ultimate goal of having a strong, healthy, creative and vibrant Byelorussian Association in Canada, we constantly need your support. No matter how little or how much time, money or simply "people power" you can spare us — we definitely put each and everyone of you to good use.

Feel free to call or drop by with any ideas — after all we are here to serve your interests. Yes, we have made a good start, but to keep on going, we need your energy — as in any relationship, a great deal of effort and time must be invested to make that relationship work. Please, do not hesitate to make that investment, an investment for your own identity as a Byelorussian, or to lose one's identity is to lose oneself.

Thank you for your continued support!

Regards,

A. Chrenowski, President
Executive Committee
Tel.: (514) 688-9783

---

Сьв.†Пам.

## ДЗЬМІТРЫ КАСМОВІЧ

Старшыня Беларускага Вызвольнага Фронту. Нарадзіўся 21.IX.1909 г., памёр 23.IV.1991 г. ў Нямеччыне, пра што паведамляе і шчырыя спачуваньні сям'і і сваяком нябожчыка выказвае

**Галоўная Ўправа БАЗА**

---

Сьв.†Пам.

## ЯН КАЗЬЛЯКОЎСКІ

Нарадзіўся 13.XII.1894 г. ў в. Калауравічы Пінскага павету. Даўгагадовы старшыня царкоўнае ўправы прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, Н.-Ё., ад 1982 г. пажыцьцёва ганаровы старшыня. Адыйшоў на вечны супачынак 24.III.1991 г. і пахаваны 27.III. на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, Н.-Дж.. Сям'і нябожчыка найглыбейшыя спачуваньні.

Вечная памяць!

**Прыхаджане і царкоўная ўправа прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле**

---

Сьв.†Пам.

## УЛАДЗІМІР МІЦКЕВІЧ

Народжаны ў 1914 г., шматгадовы настаўнік і кіраўнік філіялу музэя Я. Коласа ў Смольні каля Мікалаеўшчыны, адыйшоў 1 сакавіка 1991 г. ў вечнасьць, аб чым паведамляюць горам прыбітая сям'я й родныя ў Амэрыцы.

Пахаваньне адбылося на мікалаеўшчынскіх могілках.

Вечная памяць.

---

## СЬВ. ПАМ. АЛЕСЯ ЧАБАТАР

23-га студзеня сёлета адыйшла ў лепшы сьвет сьв. пам. Алеся Чабатар, з дому Бушма, пакінуўшы ў глыбокім жалі мужа, дочку з мужам і двух сыноў з жонкамі (аднаго на Бацькаўшчыне) ды сем унукаў.

Нябожчыца нарадзілася ў 1910 годзе ў мястэчку Далятычы над нашым сінявокім Нёманам на Навагрудчыне.

Ад 1929 году актыўная ўдзельніца гуртка самадзейнасьці беларускае моладзі, Алеся брала ўдзел ува ўсіх пастаноўках. У гадох 1932-39 была заступнікам старшыні адзьдзелу Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры. У хаце ейных бацькоў адбываліся пасе-



джаньні ўправы, зборкі, усе рэпэтыцыі, за што тагачасныя польскія ўлады і перасьледавалі яе. Гэтак, прыкладам, кожнага 30-га красавіка паліцыя замыкала яе ў вязьніцу і выпускала толькі 3-га травеня.

Завіруха Другой сусьветнай вайны закінула нябожчыцу ў Аўстралію. Свае актыўнасьці не пакінула яна й тут. Ад самага пачатку дзейнасьці адзьдзелу Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у Заходняй Аўстраліі сьв. пам. Алеся Чабатар, не зважаючы на далёкую адлегласьць ад Альбані ў Пэрт (аж 500 км.), даяжджала на лаўджаныя адзьдзелам ЗБВ ўгодкі Слуцкага паўстаньня і 25 Сакавіка. Шмат ахвярнасьці ўлажыла нябожчыца ў пабудову, як мы яе называем, Беларускай хаткі. Як добрая ткальля паясоў і вышывальніца, Алеся Чабатар вышыла й ахвяравала «Пагоню», якая красуецца ў залі паседжаньняў ды будзе нагадваць нам аб ейных залатых руках.

Так як страцілі яе ўсе ейныя родзічы, гэтак страцілі яе й мы, сяброўкі й прыяцелькі.

Хай будзе Табе пухам аўстралійская зямелька і хай сьніцца дарагая наша Беларусь і сінявокі Нёман.

**М. М., прыяцелька**

---

*Віншуем!*

## МАРЫЮ ПАЎЛІНУ СУРВІЛА-ВАХМАН

з выдрукаваньнем і абаронай дысэртацыі Music and Identity: Byelorussians Making Music in North America (107 р) на ступень магістра Мічыганскага Ўнівэрсытэту. Віншуем таксама бацькоў і мужа Марыі Паўліны, якія шмат спрычыніліся да выкананьня ейнае працы.

**Управа БІНіМ**

*Весткі з Канады*

## ПОСЬПЕХ МАЛАДОЕ БЕЛАРУСКІ

Прафэсар этнамузыкалёгіі Атаўскага Ўнівэрсытэту др. Жосьлін Гільбо ўлучыла ў праграму свае катэдры адзін з разьдзелаў магістэрсткай тэзы Марыі Паўлі Сурвіла, студэнткі трэцяга курсу Мічыганскага Ўнівэрсытэту ў Ан-Арбары. Тэма разьдзелу — «Канфлікт і таесамасьць». У ім аўтарка аналізуе ўплыў нутранагрмадзкіх і міжграмадзкіх канфліктаў на станаўленьне пачуцьця нацыянальнай прыналежнасьці сярод Беларусаў. Марыя Паўля Сурвіла працуе цяпер над доктарскай дысэртацыяй на беларускую тэму.

## КАНЦЭРТ НА ДАПАМОГУ ЧАРНОБЫЛЬЦАМ

У пятніцу 22 лютага ў тэатральнай залі Атаўскага Ўнівэрсытэту адбыўся канцэрт у падтрыманьне фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. У праграме канцэрту была клясычная музыка й гішпанскі фальклёр флямэнка. Гітарысты Эд Гоніўэл, прафэсар факультэту музыкі Атаўскага Ў-ту, і Лео Марты-Агуіляр ахвяравалі свой час і талент для гэтай высакароднай мэты.

Канцэрт, які прайшоў зь вялікім посьпехам, быў арганізаваны супрацоўнікамі й прыхільнікамі Канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. У сувязі з канцэртам радыё Атаўскага Ў-ту, а таксама радыё Карльтанскага Ў-ту перадалі гутаркі із сп-няй Івонкай Сурвіла, старшынёй Фонду, прысьвечаныя наступствам Чарнобыля ў Беларусі.

## ДАДАТКОВЫЯ ВІДЭАЙСТУЖКІ 19-Й СУСТРЭЧЫ

1. Архірэйская Літургія (2 гадз.)
2. Падняцьце сьцягоў і высьвячэньне будынку (1:26 гадз.)
3. Прамовы (некаторыя ня поўнасьцяй) удзельнікаў у часе вячэры (2 гадз.)
4. Канцэрты (сыботні 2 гадз., нядзельны 2:30)

Па 20 дал. касэта. Два даляры з кожнай касэты на Чарнобыльскі фонд.

Michael Kolyadko
14080 Indian Creek Dr.
Middleburg Hts OH 44130
Tel.: (216) 234-4601

***ВАШЫЯ АХВЯРЫ НА ГАЗЭТУ ПАМАГАЮЦЬ НАМ ПАСЫЛАЦЬ ЯЕ НА БЕЛАРУСЬ.***

## ПРОСЬБА ДА ЧЫТАЧОЎ «БЕЛАРУСА»

Беларускі музэй Якуба Коласа ў Менску і іншыя культурныя ўстановы шукаюць пісьменьніцкай спадчыны Дзядзькі Міхася Міцкевіча, малодшага брата Я. Коласа.

Ветліва просім чытачоў газэты «Беларус» і ўсіх Беларусаў ахвяраваць і перасласць, калі хто мае які-колечы твор Дзядзькі Міхася, як, напрыклад, чытанкі для дзяцей пачатковых школ, апавяданьні, пераклады, ягоныя артыкулы з часапісаў і газэт, дакумэнты й матар'ялы з грамадзка-рэлігійнай дзейнасьці, або годныя ўвагі прыватныя лісты. Кошты перасылкі будуць неадкладна зварачацца.

Просім слаць на адрас А. Міцкевіча:

Mr. A. Mickievich
90-16 54 Ave
Elmhurst, N.Y. 11373
U.S.A.

## ДА СУАЙЧЫНЬНІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Дарагія Беларусы ўсіх краёў!

Бяз вашых допісаў «Наша слова» ня здолее расказаць пра тое, чым жывяце вы далёка ад роднай Беларусі. Бяз нашай газэты вы не даведаецеся шмат чаго пра адраджэньне на Бацькаўшчыне.

Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто хацеў-бы сёлета атрымліваць «Наша слова», а таксама дасылаць нам артыкулы, інфармацыю, фотаздымкі.

**Рэдакцыя «Нашага слова»**

Наш адрас: 220005, г. Мінск
вул. Румянцава, 13
Тэл. рэд.: 33-25-11

 

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА
ФОНД ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

# ПАДЗЯКА

**Браніславу і Александры Даніловічам**
**за ахвяру $575.00**
**на Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля Ў Беларусі**
**ў памяць дарагога сына Эдварда**

Вечная Памяць

## СЬВ. ПАМ. ЯН КАЗЬЛЯКОЎСКІ

**(13.XII.1894 — 24.III.1991)**



Нарадзіўся 13 сьнежня 1894 г. ў в. Калауравічы Пінскага павету. Жыў на гаспадарцы, а да гэтага трымаў таксама спажывецкі магазын і меў свой млын. «Вызваленьне» Саветамі ў 1939 годзе прынесла страты заможнаму жыцьцю.

У вайну Я. Казьлякоўскі змушаны быў эвакуавацца зь сям'ёю ў Нямеччыну, дзе давялося пазнаць усе жахі вайны й чужыны. Па вайне жыў у Баварыі ў лягерох ДП, адкуль эміграваў у 1951 годзе ў ЗША. Тут даўжэйшы час жыў са сваёй спадарыняй Кацярынай у Нью-Ёрку, на Грын-Пойньце ў Брукліне. Зарабляў на жыцьцё даволі доўга, бо на пэнсію пайшоў аж пасьля 70-ці гадоў. У міжчасе купіў фарму ў Мэйс-Ляндыгу ў штаце Нью-Джэрзы, дзе меў хату. Туды й перабраўся жыць у 1980 годзе. У 1982 г. памерла жонка, застаўся сам. Апошнія тры гады быў у доме для састарэлых. Дзеці, асабліва сын Міхась, што жыў зь ім на фарме, ды сын Рыгор зь Міхалінаю дапамагалі бацьку, каб ня чуўся самотным.

Я спаткаўся са сьв. пам. Янам Казьлякоўскім у пачатку 1960-х гадоў у Нью-Ёрку. Нябожчык браў тады актыўны ўдзел у царкоўным жыцьці прыходу БАПЦ на 401 Атлянтык авэню. У 1962 г. прыход Сьв. Кірылы Тураўскага выбраў Я. Казьлякоўскага за старшыню царкоўнае рады, на гэтым становішчы ён быў і наступныя гады. У 1965 г. я пазнаўся бліжэй са сьв. пам. Казьлякоўскім, працуючы разам у царкоўнай радзе. Калі прыход разьдзяліўся і наша грамада адыйшла, быў зарганізаваны новы беларускі праваслаўны прыход у Рычманд-Гіле. У лістападзе 1968 году была прынятая пастанова будаваць новую царкву. Сьв. пам. Ян Казьлякоўскі застаўся надалей старшынёй новага прыходу (Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле) і прабыў на гэтым становішчы аж да 1982 году. Пад ягоным кіраўніцтвам афармілі статут прыходу і пабудавалі новую царкву.

Як чалавек, нябожчык быў мяккага характару, глыбока рэлігійны, адданы царкве ды спагадлівы да людзей. Ён ня меў ворагаў нават між тых, ад каго адыйшоў. Яго старшынства ў нашым прыходзе ў Рычманд-Гіле спрыяла будаваньню царквы й людзьмі, што ня былі зьвязаныя з намі. За ўвесь час у нас ня было ніякіх непаразуменьняў паміж старшынём і прыхаджанамі. Калі царква была пабудаваная і пачаліся службы (першая 20.X.72), нябожчык чуўся як-бы яго Бог нечым узнагародзіў, меў невыказальнае задаваленьне. Ён часта паўтараў: «Калі Богу ўгодна, дык трэба рабіць».

Сьв. пам. Ян Казьлякоўскі ўзначальваў царкоўную ўправу да 1982 году. У лютым таго году ён адмовіўся ад старшынства, бо ўжо крыху недамагаў. Старшынём управы быў выбраны ягоны заўсёдны заступнік сп. К. Мерляк. Агульны сход пакінуў сьв. пам. Казьлякоўскага пажыцьцёва ганаровым старшынём царкоўнае ўправы.

Памёр нябожчык у Мэйс-Ляндынгу раптоўна на сэрца. Пакінуў асірацелых двух сыноў, дзьве дачкі, 12 унукаў, 21 праўнука і аднаго прапраўнука. Некаторыя зь іх жывуць на Беларусі, іншыя — за межамі.

Паховіны адбыліся з царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку, Н.-Дж. Пахаваны 27 сакавіка 1991 г. на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку побач свае жонкі Кацярыны. Хаваў а. Васіль Андрэюк.

Памінкі адбыліся пад царквою ў Гайленд-Парку. Сабралася многа людзей: родных, прыяцеляў, знаёмых. Ад нашага прыходу развітваў нябожчыка сп. К. Мерляк. Ад царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле — а. Грэгоры, прыхаджане й царкоўная ўправа. Усе мы аплакваем сьв. пам. Яна Казьлякоўскага і спачуваем сям'і нябожчыка.

Вечная памяць!

**Васіль Шчэцька**

## НАША ВЕРА
## КАРОТКІ КАТЭХІЗМ ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ НАВУКІ
**Для Беларусаў-каталікоў**

Гэта другое дапоўненае выданьне (65 стар.). Першае выйшла ў Рыме ў 1988 годзе. Яго дапоўніў у паправіў а. Аляксандар Надсон. Кніга выйшла летась у выдавецтве «Царква ў патрэбе». У ёй 224 пытаньні і сьцíслыя адказы на іх. Увесь матар'ял падзелены на разьдзелы: 1. Уступныя весткі. 2. Вера. 3. Надзея. 4. Любоў. 5. Ласка Божая, Тайны. 6. Дабрадзейнасьці і заганы. Дадатак: Прынагодныя малітвы, у тым ліку «Магутны Божа» (словы Натальлі Арсеньневай).

### Пошукі сваякоў

**Антона Аляксеевіча Кіселевіча шукае родны брат Аляксей Кіселевіч.**

Антон Кіселевіч жыў у Нью-Ёрку, быў уладальнікам жыльлёвага будынку. Адзін зь ягоных лістоў у 1937 г. меў гэткі адваротны адрас: Anton Kiselewich, 146 Henry St., Stamford, Conn., U.S.A. У лісьце ён паведамляў аб сваёй сям'і (дочкі Ганна, 19 год, Вера, 14 год, Марыя, 11 год, сын Аляксей, 8 гадоў). Інфармацыю слаць на адрас:

225142 БССР, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Обеч, Кіселевічу Аляксею А.

**Сяброў Васіля і Тэклю Шабунко шукаюць Аляксандар і Жэня Шарко.**

Шабункі пераехалі ў 1961 г. з Бразыліі ў ЗША, дзе іхны адрас быў: Basili (Wasyl) Szabunko, 169 E 2nd St., New York, USA.

Наш адрас: Aleksander and Zenia Szarko, 16 Virgil Alve, Sefton NSW 2162, Australia.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю*

| | |
|---|---|
| А. Лашук (150 анг. ф.) | ам. дал. 263 |
| М. Смаршчок | 100 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| Я. Жучка | 100 |
| М. Грынчук | 50 |
| Н. Кудасава, заміж кветак на магілу сп. Жэні Цярпіцкай | 50 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| А. Арэшка | 50 |
| І. Каханоўская | 50 |
| Г. П. (ад А. Міцкевіча) | 40 |
| А. Хрэноўскі | 35 |
| М. Занковіч | 30 |
| М. Кулагін | 30 |
| Ю. Андрусышына | 30 |
| П. Зыбайла | 30 |
| М. Каленік | 30 |
| Я. Калоша | 30 |
| В. Рамук | 25 |
| М. Кумэйша | 25 |
| Ул. Целеш | 25 |
| Бел. Аб'ядн. ў Зах. Аўстраліі | 20 |
| Я. Юхнавец | 15 |
| Усяго | 1178 |

| | |
|---|---|
| Л. Паплаўскі | кан. дал. 40 |
| М. і В. Махнач | ам. дал. 50 |
| В. Богдан | 50 |
| Я. Сімчык | 30 |

*Сабрана на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью-Джэрзы:*

| | |
|---|---|
| АБАМ | 100 |
| А. і Л. Дубовік | 100 |
| В. Заморская | 100 |
| А. Рамана | 50 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50 |
| В. Русак | 50 |
| А. Ліхач | 50 |
| М. і Н. Рагуля | 40 |
| Л. і В. Кажан | 40 |
| Т. і А. Кольба | 30 |
| Р. Станкевіч | 30 |
| Б. Даніловіч | 25 |
| Г. Акаты | 25 |
| С. і Н. Дудар | 25 |
| Ананімна | 23 |
| М. і К. Вербей | 20 |
| А. Андрыца | 20 |
| Ю. і Л. Кіпель | 20 |
| А. Субота | 20 |
| Л. Корчык | 20 |
| К. Мерляк | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| а. В. Андрэюк | 20 |
| А. Непейн | 20 |
| Э. Рыжы | 10 |
| А. Мацукевіч | 10 |
| Ю. Андрусышына | 10 |
| М. В. | 10 |
| С. Гутырчык | 10 |
| Я. Каханоўская | 10 |
| А. Шукелайць | 10 |
| А. Ліхач | 10 |
| Т. Супрун | 10 |
| А. Міцкевіч | 10 |
| М. Тулейка | 10 |
| П. Кажура | 10 |
| Л. Стагановіч | 10 |
| М. Машанскі | 5 |
| А. Дубяга | 5 |
| В. Стома | 5 |
| М. Стома | 5 |
| Усяго | 1068 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Падпіска й ахвяры: | |
| М. Ганько | 100 |
| Я. Баран | 81 |
| БАПЦ | 50 |
| БАПЦ (Кансысторыя) | 50 |
| П. Ганэцкі | 50 |
| Адзьдзел БАЗА ў Нью-Дж. | 50 |
| ЗБАВ | 50 |
| І. Цупрык | 40 |
| В. Балтрушэвіч | 35 |
| Л. Шурак | 30 |
| М. Шуст | 30 |
| А. Непейн | 30 |
| А. Машанскі | 30 |
| А. Протас | 30 |
| А. Філістовіч | 30 |
| Я. Чорны | 25 |
| Р. Ж.-Г. за Р. А. | 25 |
| М. Каранеўскі | 25 |
| Ул. Сьліўка | 25 |
| Г. Дубяга | 25 |
| Л. Корчык | 25 |
| У. Харавец | 25 |
| Я. Місюль | 25 |
| А. Балкоўскі | 25 |
| В. Гуцько | 25 |
| Я. Бурдзь | 25 |
| М. Тулейка | 20 |
| Г. Дубяга малодшы | 20 |
| А. Айэ | 20 |
| П. Скепка | 20 |

*У памяць сьв. пам. Эдварда Даніловіча*

| | |
|---|---|
| А. Субота на газ. «Б-с» | 50 |
| Р. Галяк на газ. «Б-с» | 25 |
| Р. Галяк на кветкі на магілу | 25 |

| | |
|---|---|
| М. Сьнежка | 100 |
| М. Смаршчок | 100 |
| Л. Норык | 50 |
| А. Завістовіч | 50 |
| М. Абрамчык | 50 |
| А. Тэлеш | 50 |
| М. Тулейка | 50 |
| а. В. Андрэюк | 50 |
| В. Пашкевіч | 35 |
| І. Калоша | 30 |
| П. Кажура | 30 |
| М. Пракопчык | 30 |
| Л. Кавалёў | 30 |
| У. Шульжыцкі | 25 |
| Тэлеш | 25 |
| В. Цярпіцкі | 25 |
| Л. Высоцкі | 25 |
| М. Бахар | 25 |
| А. Даніловіч | 25 |
| А. Якімовіч | 25 |
| У. Траскевіч | 20 |
| Г. Бахар | 20 |
| Усяго | 2001 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| М. Раецкі | ам.дал. 54 |
| С. Нарушэвіч | 250 |

**БЭЛЬГІЯ**

| | |
|---|---|
| З. Смаршчок | б. фр. 3000 |
| Л. Клыбік | 3000 |
| Р. Занькоўскі | 600 |
| А. Арэшка | 600 |
| П. Барысік | 600 |
| Усяго | 7800 |
| | ам. дал. 221,57 |

**АНГЛІЯ**

| | |
|---|---|
| С. Буткевіч | анг. ф. 25 |
| З. Стантон | 25 |
| М. Баяроўскі | 25 |
| П. Мятла | 15 |
| Я. Міхальчык | 10 |
| Усяго | 100 |

*Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!*

**Адміністрацыя «Беларуса»**